PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (2091) Год XLI Беласток 9 чэрвеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# Другі Сакрат у Крынках не з'явіцца

**На 8 чэрвеня ў Беластоку запланавана канферэнцыя ў гонар 60-годдзя з дня нараджэння Сакрата ЯНОВІЧА, прысвечаная ягонай творчасці. Напярэдадні канферэнцыі гутарку з Юбілярам правеў Яўген Мірановіч.**

***— Сакраце, ці напісаў Ты ўжо кніжку свайго жыцця?***

— Думаю, што не. Я яе ўсё яшчэ пішу.

***— Асмелюся сказаць, што Тваё прозвішча ў Польшчы больш вядомае дзякуючы палітычным каментарыям, чым літаратурнай творчасці. Ці не шкадуеш часам, што сваю жыццёвую актыўнасць не накіраваў Ты ў палітыку?***

— Не шкадую, бо ў палітыцы я выпадковы чалавек, балельшчык. І, часам, гэта мяне іранічна засмучае... Ісці ў палітыку я быў як бы маральна прымушаны. Маючы сваё выразнае месца ў літаратуры, мне прыйшлося займацца яшчэ і тым, да чаго я не меў ніякага таленту. А чалавек не можа мець двух асобных талентаў. Цяпер я разумею, што ў мяне быў і ёсць нейкі ўсё ж літаратурны талент, але дзеля палітыкі патрэбны зусім іншы, нават іншы характар чалавека. Аднак, да нядаўняга часу, не было ў нас каму займацца палітыкай, калі тым часам пра мяне ў Польшчы, як-ніяк, нешта ведалі і безупынна звярталіся з рознымі справамі. Такім чынам **я ўваходзіў у палітыку неяк мімавольна, быццам пазычаючы сваё імя пад нявыплатны крэдытны вэксаль, а нават скажу больш — супраць свае волі.** І калі цяпер звяртаюцца да мяне журналісты з Польшчы ці з-за мяжы, каб узяць інтэрв'ю, я ўсё маю надзею, што будзем гаварыць пра літаратуру. На жаль, хто б ні прыязджаў, адразу пачынае гутарку з палітыкі. Цяжка ў такой сітуацыі выганяць госця з дому. Але кажу табе: мне ўжо абрыдлі тыя размовы пра палітыку і тое зацікаўленне маёй асобай як палітычным каментатарам. Я хацеў бы ў рэшце рэшт пачаць гаварыць пра літаратуру і пра сваю ролю ў ёй. Але літаратурная творчасць наогул мала каго цікавіць. Я часта рэкламую нашых маладых дзеячаў і адсылаю да іх усякіх маіх гасцей, толькі што журналістам трэба не столькі глыбокая думка, колькі вядомае імя на першую старонку газеты. Хочуць мець інтэрв'ю з Сакратам Яновічам і ўсё! А мяне злосць бярэ, калі бачу перад сабою чалавека, які не прачытаў і не прачытае ніводнай маёй кніжкі, а пасля напіша, што размаўляў з „выдатным пісьменнікам".



***— Чытаючы Тваю прозу, у мяне часам складваецца ўражанне, што свядома адкрываеш тыя куткі чалавечай душы тутэйшага беларуса, якія ён вельмі дбайна хавае, паказваеш гратэскавы характар маскіравання беларускасці „нашым чалавекам". Часам Тваё апісанне ягонай душы нагадвае анатаміраванне яшчэ жывога чалавека. Адкуль у цябе столькі „садызму" ў адносінах да „тутэйшага" люду?***

— Гэты, як ты кажаш, садызм ёсць вынік таго, што я нашых людзей люблю і не люблю, шаную і ненавіджу адначасова. Мяне, як аўтара, цікавіць у чалавеку яго веліч і яго нізкасць, яго манументальнасць і яго подласць, бо ў чалавеку ўсе гэтыя якасці выступаюць паралельна. Для мяне знакамітым матэрыялам для аналізу ёсць менавіта „наш чалавек", асобна з паншчынна-мужыцкім менталітэтам. Я ім амаль маньякальна цікаўлюся, аб ім нясціхана думаю. Унікальны ён матэрыял літаратару. А гаворым тут пра — шырэй кажучы — беднага чалавека, беднага ў сэнсе матэрыяльным і духоўным, якога псіхалогія дазваляе мне паглыбляцца ў самую сутнасць чалавечае душы. Кожны аўтар карыстаецца матэрыялам такім, які знаходзіцца ў яго акружэнні. У якім рос, як у клімаце. Я найлепш ведаю Крынкі і пра іх найбольш пішу.

***— Для большасці жыхароў Беласточчыны Ты з'яўляешся сімвалам беларускасці на гэтай зямлі. Тым часам гэтая беларускасць, — якая яна ёсць, сам ведаеш. Ці не адчуваеш сябе чалавекам прайгранай справы?***

— Час-часам нешта падобнае адчуваю, але толькі ў стане ўтомнай дэпрэсіі. Выратоўвае мяне тая свядомасць, што хоць за ўсю гісторыю чалавецтва шмат прапала моваў ды народаў, ды ніколі створаныя імі літаратуры, дзякуючы якім засталіся вечнымі. Усё тое, што называем беларускасцю, я безупынна аналізую. Яна была для мяне першай справай, якою я, як дарослы чалавек, займаўся, за якую перажываў. Паглыбляючыся ў пытанні беларускасці, я мог дайсці да універсальных праблемаў. Беларускасць у беластоцкіх умовах — гэта стан духа таго ж беднага чалавека. Калі я назіраю за ўсялякімі паваротамі ў нашым грамадстве і канфрантую гэта з тым, што дзеецца ў свеце, бачу ў прынцыпе ідэнтычныя рэакцыі ў іншых бедных народаў. Нягледзячы на тое, ці гэта будзе Лацінская Амерыка, ці малы народ у Заходняй Еўропе, усе бедныя людзі ў свеце рэагуюць — аказваецца — аднолькава і перш за ўсё кіруюцца яны галодным жыватом, а пасля ўжо сэрцам ці душою. Наш чалавек, які жыве ў Беластоку і ездзіць на аўтамашыне, ён надалей рэлятыўна бедны. Іншыя ад яго пайшлі далей. „Нашым людзям" беларускасць у нічым не патрэбная. На хлеб яе не нама-

*(працяг на стар. 4)*

Алег Латышонак

# Тутэйшыя ў Адэсе

Паводле рускіх, Адэсе 200 гадоў, а пабудавала яе царыца Кацярына II. Паводле ўкраінцаў — Адэсе 600 гадоў, а пабудаваў яе Вітаўт Вялікі. Ва ўладах горада большасць маюць камуністы-русафілы, і афіцыйна святкуюць 200-годдзе. Думаюць нават аб вяртанні помніка Кацярыне II. На яго месцы стаіць помнік абаронцам Адэсы ў II сусветную вайну, але хочуць яго перанесці на іншае месца. На вяртанне Кацярыны II не згаджаюцца ўкраінцы, бо імператрыца знішчыла Запарожскую Сеч. Дык як жа такой ставіць помнік ва украінскім горадзе?!

Усё-такі праблемы руска-ўкраінскай гісторыі мала каго ў Адэсе хвалююць. Жыхары Адэсы ўхіляюцца ад адказу на пытанне пра іхнюю нацыянальнасць. Настойлівы чужынец чуе адказ: „Я — адэсіт", „Я — адэсітка". Зусім як „тутэйшы", заўважыў польскі гісторык, з якім наведаў я Адэсу. Відаць, меў ён рацыю. У горадзе большасць складаюць украінцы, але ўкраінскай мовы на вуліцы не пачуеш. Усюды пануе расейская мова. Толькі простанароддзе гаворыць на нейкай трасянцы. Іншае чуваць у Заходняй Украіне. На пагранічнай станцыі ў Масціскасх па-ўкраінску гаварылі нават малыя мулаты, што жабравалі ў цягніку. Спявалі яны пасажырам „Ты ж мэнэ підманула".

У Адэсе быццам бы палова школ украінскамоўная, але ўсе школьнікі гавораць па-руску. Не сустрэў я хаця б групкі моладзі, якая б гаварыла паміж сабою па-ўкраінску. Нават мясцовая УНА-УНСО, маладзёжная арганізацыя, якая славіцца сваім нацыяналізмам, выдае лістоўкі на рускай мове. Лістоўка, якая трапіла мне ў рукі, заклікала да яднання супроць крымінальнага насілля. Прыходзь да нас, запрашае УНА-УНСО, а мы цябе навучым біць правай і левай рукою па чарзе. Ахвотных „біць па чарзе" пакуль што мала.

Асноўная праблема жыхароў горада гэта як выжыць, хаця спачатку прыезджы гэтага не заўважае. Цэнтр Адэсы нечакана багаты. Дарэчы, захавалася тут уся старая забудова горада, апрача цэркваў. Стаяць помнікі фельдмаршалам, графам і губернатарам. Галоўны праменад Адэсы, вуліца Дэрыбасаўская, застаўлена кафейнымі столікамі. Дзякуй цудоўнаму паўднёваму клімату, жыццё на вуліцы бурліць да ночы. Па Дэрыбасаўскай шпацыруюць неверагодны прыгажосці дзяўчаты. У крамах ёсць усё, а самыя крамы — элегантныя. Паліцы гнуцца ад тавараў з Польшчы. Нават цэннікі, і тыя з Польшчы прывезены. Але ёсць таксама та-

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*System demokratyczny wymaga dojrzałości społeczeństwa, a gdy dojrzałości tej brak, przeradza się we własną, ponurą karykaturę. Rządy ludu stają się rządami motłochu. Pazernego, myślącego tylko we własnym interesie, gotowego, by być skorumpowanym i korumpować innych.*

*Polityka, nr 19*

* * *

*Politykę na Białorusi wyznacza praktycznie otoczenie prezydenta. Niestety, wokół niego zgrupowali się ludzie niezbyt mądrzy politycznie, a także wyrafinowani krętacze, łatwo przystosowujący się do każdej sytuacji, chwalący każdą władzę. Dlatego jest u nas tyle absurdów, wynikającej z braku wykształcenia, niskiej kultury i świadomości polityków. Sam Łukaszenka ma wykształcenie politruka. Dlatego podejmuje decyzje, które tylko jemu wydają się mądre, wręcz wspaniałe, ale nie przynoszą oczekiwanych rezultatów. Niestety, w ostatnim czasie wszystko to nabiera odczucia kryminalnego. Nasz „wybrany przez naród" — jak siebie często określa — prezydent buduje państwo na podobieństwo niektórych krajów Ameryki Łacińskiej, —* сказаў былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

*Wprost, nr 20*

* * *

*Trzeba pamiętać, że nowożytna kultura białoruska w jej wymiarze wyznaniowym była rzymskokatolicka... Kultura białoruska zaczęła wchłaniać element prawosławny w dobie pouwłaszczeniowej.*

*Gazeta Współczesna, nr 96*

* * *

*Osobista ochrona prezydenta Białorusi Aleksandra Łukaszenki liczy 1800 osób. Do ochrony prezydenta nie przyjmuje się Białorusinów. Składa się ona głównie z Rosjan. Członkowie ochrony mieszkają w koszarach i szkoleni są jak komandosi.*

*Gazeta Polska, nr 21*

Ужо рымскі імператар Калігула не прымаў у рады прэтарыянцаў грамадзян Рыма, а толькі рабіў выбар з варварскіх плямён.

* * *

*Organizowanie przeglądow twórczości ludowej ma sporo sensu. Obserwuję na przykład niezwykłą aktywność kulturalną mniejszości białoruskiej, która jest ewidentnie związana z tego typu imprezami, —* сказаў прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч.

*Gazeta Wyborcza, nr 114*

* * *

*Na pytanie, czy zdarza się rejestrować Nadzieje, Borysów, Sergiuszów, zastępca kierownika białostockiego USC Mieczysław Mejsak odpowiada bez wahania:*

*— Nie. Zdecydowanie nie spotkałem w swojej pracy, by ktoś rejestrował Borysa czy Nadzieję. Zdarzają się wypadki, że osoby tak się nazywające spolszczają swoje imiona. Nie tylko imiona. Niektórzy spolszczają także nazwiska. — Ono brzmi po rusku i mam z tego powodu problemy ze znalezieniem pracy. Tak motywują swoje wnioski — wspomina M. Mejsak.*

*Pragnący zachować anonimowość prawosławny potwierdza te zachowania. Zdarzały się wypadki, że rodzice grozili księdzu prawosławnemu, że pójdą ochrzcić dziecko do kościoła, jeśli nie zgodzi się na imię dziecka Stasia czy Zdzisia.*

*W Polsce, mimo deklaracji, trudno o akceptację odmienności.*

*Kurier Podlaski, nr 96*

* * *

*Polacy przy grobach się skupiają — odwiedzają je rodzinnie, odnajdują w nich więź społeczną i narodową. Prawdę mówiąc, bez grobu nie potrafimy być razem. Tyle tylko, że to musi być nasz grób. Na ziemiach odzyskanych regułą było bezczeszczenie niemieckich cmentarzy. Zwykli ludzie rozbijali tablice, rozkopywali groby, wywlekali i wyrzucali kości. Podobnie było na kirkutach i cmentarzach łemkowskich.*

*Gazeta Wyborcza, nr 116*

* * *

*Po pięciu latach wolnego rynku, dzięki spirali drobnych pożyczek, można w Polsce dożyć do pierwszego. A kto chce uchwycić większy ochłap, uczy się na księdza, sprząta kible na kolei albo przemyca materiały radioaktywne na Zachód.*

*W tym kraju człowiek wrażliwy może wytrzymać tylko na „haju", obojętnie, czy pod postacią orgiastycznego seksu, zaczadzenia mitem wielkiej forsy, czy tanim narkotykiem. Polacy to chodzące stadem mięso, wiecznie zajęte tym, że je, wydala i kopuluje. Ludzie tłoczą się wokół swoich ciemnych interesów jak szczury, które w masarni dorwały krwawy ochłap. Taki obraz Polski z „wymiotną" wyrazistością pokazuje film Andrzeja Żuławskiego „Szamanka".*

*Wprost, nr 20*

* * *

*Teraz, kiedy prokuratura wyłapała już polskich szpiegów, może zająć się ustaleniem, czy fakt, że w Polsce żyją jacyś Białorusini, nie jest działaniem antypaństwowym przeciwko Białorusi, gdzie uważa się przecież, że żadnych Białorusinów w ogóle nie ma.*

*Gazeta Wyborcza, nr 115*

# З мінулага тыдня

**Польшча можа дапамагчы Беларусі** выйсці з палітычнай ізаляванасці, — сказаў генеральны сакратар Рады Еўропы **Даніель Таршыс** падчас сустрэчы ў Варшаве з членамі дэлегацыі Сейма і Сената ў Парламенцкую Асамблею РЕ. Выказаў ён расчараванасць затармажэннем развіцця дэмакратыі ў Беларусі і прад'явіў заўвагі ў адносінах да прэзідэнта гэтай краіны, які не шануе правоў чалавека, блакіруе незалежны друк і дзеянні апазіцыі.

**Міністэрства замежных спраў РП** адкінула тлумачэнні беларускага боку ў справе затрымання ў Менску, а пасля выдварэння з Беларусі дэлегацыі „Салідарнасці". Віцэ-міністр замежных спраў **Стэфан Мэллер** перадаў паслу Беларусі **Віктару Бурскаму** афіцыйную ноту МЗС у гэтай справе. Польскі бок лічыць, што візіт прадстаўнікоў „Салідарнасці" ў Менск меў афіцыйны характар. Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі палкоўнік **Уладзімір Замяталін** пацвердзіў атрыманне ноты. Па яго меркаваннях, дэпартацыя дэлегацыі „Салідарнасці" інакш успрымаецца ўладамі ў Менску, а інакш уладамі ў Варшаве. Сказаў ён таксама, што кожны народ мае сваё ўяўленне наконт правоў чалавека.

**Прафсаюз „Салідарнасць"** правёў пікет пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Старшыня Мазавецкага рэгіёна **Мацей Янкоўскі** даручыў саветніку беларускага пасольства **Мечыславу Часноўскаму** ліст з патрабаваннем вызваліць арыштаваных пасля „Чарнобыльскага шляху" прафсаюзных дзеячаў і гарантаваць свабоду дзеяння незалежным прафсаюзам.

**Мар'ян Кшаклеўскі** — старшыня Прафсаюза „Салідарнасць" не паехаў 30 мая ў Менск на судовы працэс, дзе абвінавачвалі яго ў „правапарушэнні і арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу". Лідэр „Салідарнасці" даслаў у суд скаргу наконт брутальнага затрымання і дэпартацыі з Менска.

**Іван Антановіч, Станіслаў Багданкевіч, Сяргей Посахаў, Анатоль Майсеня** — вось далёка не поўны пералік беларускіх палітолагаў, якія ўдзельнічалі ў Варшаве ў семінары „Беларусь, Польшча, Украіна — бяспечны раён у бяспечнай Еўропе". Падчас дыскусіі разглядаліся, між іншым, пытанні ролі НАТО і Расійскай Федэрацыі ў будучай бяспецы краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, умоў супрацоўніцтва ў галіне бяспекі і ролі неўрадавых арганізацый у яго будаўніцтве.

**Менскае выдавецтва „Народная асвета"** атрымала дыплом і ганаровы прыз на 41 Міжнародным кніжным кірмашы ў Варшаве за распаўсюджванне літаратуры на польскай мове. Сярод экспанатаў наведвальнікі кірмашу маглі ўбачыць апошнія выданні энцыклапедычнай і дадавальнай літаратуры, альбомы „Беларусь", „Нясвіж", „Траецкае Прадмесце", а таксама першы том дзевяцітомнага збору твораў Янкі Купалы, выбраныя творы Уладзіміра Караткевіча і Максіма Гарэцкага. На кірмашы адбыліся дзелавыя перагаворы прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі з кнігавыдаўцамі Украіны, Польшчы і Літвы *(пра кірмаш чытайце на стар. 5)*.

**13 надмагільных помнікаў і крыжоў** былі знішчаны на праваслаўным магільніку пры вул. Бацечкі ў Беластоку чатырма маладымі мужчынамі. Паліцыя устанаўлівае персаналіі вандалаў. У месяцы маі ў Беластоцкім ваяводстве зарэгістравана чатыры такія здарэнні (па два ў Міхалове і Беластоку).

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Райск 16 чэрвеня 1942 г.** — успаміны жыхароў вёскі.
- **Размова Міколы Ваўранюка са старшынёю Сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцяў Яцкам Куранем.**
- **Пазьняк** — рэпартаж з пабыўкі лідэра БНФ на Беласточчыне.

# Весткі з Беларусі

**Рэлігійна-палітычнае свята**

Разам з вернікамі свята цудатворнай Іконы Жыровіцкай Божай Маці адзначыў таксама прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Ва Успенскім саборы манастыра прэзідэнт прыняў удзел у боскай літургіі, якую адправіў мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. Потым адбыўся хрэсны ход з Іконай Жыровіцкай Божай Маці да Богаяўленскага храма. Ля ўвахода ў храм прэзідэнта сустрэлі кветкамі і ўрачыстымі духоўнымі спевамі. Аляксандр Рыгоравіч адчытаў тэкст аб Праваслаўнай царкве, аб яднанні славянства і пра тое, што ў Беларусі раней недаацэньвалі такія святыні, як у Жыровічах. Прэзідэнт спрэзентаваў мітрапаліту сувенірнае велікоднае яйка на драўлянай падстаўцы. Мітрапаліт у сваю чаргу падараваў кіраўніку дзяржавы макет сабора, які той пабяцаў дапамагчы рэстаўраваць. Свята завяршылася малебнам за здароўе народа Беларусі і ўсіх вернікаў.

**Запалохванне прафсаюзаў**

Міністэрства юстыцыі накіравала ў адрас Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі пісьмовае папярэджанне аб парушэнні ёю парадку арганізацыі і правядзення 1 мая ў Менску мітынгу-шэсця (два такія папярэджанні даюць уладам падставу дэлегалізаваць арганізацыю). Прэзідыум ФПБ выказаў катэгарычную нязгоду такім абвінавачванням і накіраваў міністру юстыцыі Валянціну Сукалу пісьмо, у якім сцвярджаецца, што ўдзельнікі мітынгу-шэсця ад Федэрацыі прафсаюзаў выкарыстоўвалі толькі афіцыйна зарэгістраваную сімволіку Беларусі і сваёй арганізацыі, а гэта строга адпавядае патрабаванням канстытуцыі краіны і закону аб грамадскіх аб'яднаннях.

**Першы палітвязень**

У следчым ізалятары КДБ больш месяца знаходзіцца паэт і журналіст Славамір Адамовіч, аўтар верша „Забі прэзідэнта", што быў надрукаваны ў мінулым годзе ў віцебскай газеце „Выбар". Многія ў Беларусі лічаць, што ўлады праследуюць Адамовіча менавіта па палітычных матывах. Следчы КДБ заявіў, што Адамовічу ставіцца закід распаўсюджвання матэрыялаў, якія заклікаюць да тэрарыстычных актаў, і спроба незаконнага пранікнення за межы краіны. У пачатку чэрвеня справа будзе перададзена ў пракуратуру, адкуль трапіць у суд. Незалежныя юрысты сходзяцца ў думцы, што Адамовіча будзе цяжка асудзіць за яго верш „Забі прэзідэнта", бо гэты твор не мае канкрэтнага адрасата. Аднак даказаць спробу незаконна трапіць за мяжу краіны сапраўды не праблема. І таму не выключана, што ўжо летам Беларусь атрымае першага палітычнага вязня, які фармальна будзе асуджаны за спробу збегчы ў эміграцыю.

**20 працэнтаў свабоды**

Правы і свабоды, гарантаваныя канстытуцыяй грамадзянам Беларусі, рэалізуюцца толькі на 20 працэнтаў, — такую выснову зрабіў на пасяджэнні Камісіі Вярхоўнага Савета па правах чалавека намеснік старшыні гэтай камісіі Уладзімір Нісцюк. Дэпутат адзначыў, што асноўнай прычынай, па якой не могуць рэалізоўвацца правы грамадзян, з'яўляецца цяжкае эканамічнае становішча ў краіне.

**Беларуская меншасць у Беларусі**

Першая навукова-практычная канферэнцыя „Нацыянальныя меншасці Беларусі. Шляхам супрацоўніцтва і згоды" адбылася ў Віцебску. Яе арганізатарамі выступілі Каардынацыйны савет па справах нацыянальных меншасцей пры Кабінеце Міністраў, Міністэрства адукацыі і навукі, Міністэрства культуры і Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур. Канферэнцыя сабрала 70 вучоных а таксама прадстаўнікоў аб'яднанняў нацыянальных меншасцей. Дзяржава праз Каардынацыйны савет фарміруе нацыянальную палітыку па трох узаемазвязаных напрамках: беларускае адраджэнне, увага да праблем меншасцей і да праблем беларускай дыяспары, асабліва ў блізкім замежжы. Але асноўнымі сферамі, дзе забяспечваецца рэалізацыя правоў асобы, застаюцца па-ранейшаму адукацыя і культура.

**Чарапахі-нелегалы**

Кантрабандны груз жывых чарапах знайшлі мытнікі ў Брэсце ў аўтафургонах, якія следавалі транзітам з Сярэдняй Азіі ў Еўропу. Гаспадар жывога нелегальнага тавару не аб'явіўся. Чарапах было 1705 асобін. Іх узяў сабе Гродзенскі заапарк.

Ада Чачуга

# У Чыжоўскай гміне можна жыць!

Добра тут, у Чыжах. Шырокая вуліца, моцныя хаты, а царквы мог бы пазайздросціць тутэйшым жыхарам нават ваяводскі горад. Зямля ўраджайная, грыбныя лясы навокал, поўна рыбы ў недалёкай рацэ Локніцы, што ўпадае ў Нарву. У хатах вада і тэлефоны, самаходы на панадворках. Здаецца, жыць — не паміраць. А ўсё ж такі моладзь, закончыўшы свае „навукі" ў гарадзе, там найчасцей ужо і застаецца на ўсё жыццё.

Войт Чыжоўскай гміны Рыгор Мацкевіч наракае, што ў мінулым годзе памерла ў іх аж 95 чалавек, а толькі 15 дзяцей нарадзілася. Выключым, бадай, свята хаця на паўгода, жартуе ён, можа тады нешта кранецца.

Сёння ў 22 вёсках гміны (тэрыторыя — 134,2 кв. км) пражывае 3 418 чалавек, у тым ліку ў саміх Чыжах — 562 асобы. Прырода, відаць, адрабляе страты ў моладзі, ставячы на доўгажыхароў. Вось толькі 1 мая адсвяткавалі ў Чыжах урачыста стагоддзе Галены Ліцкевіч, інфармуе не без гонару войт гміны. Ужо і перад ёю была адна стагодка, а неўзабаве будзем святкаваць юбілей і трэцяй доўгажыхаркі.

### Асветныя справы

У даны момант у гміне працуюць толькі тры пачатковыя школы: у Чыжах, Кленіках і Курашаве.

У школу ў Чыжах ходзіць 150 вучняў у класы I — VIII, а да таго яшчэ 24 дзетак — у два класы прадшкольнага аддзялення. Беларускую мову ад II класа вывучае тут 86 прац. школьнікаў.

Дырэктар школы Сяргей Насковіч сцвярджае, што не ходзяць на ўрокі беларускай мовы наогул слабейшыя вучні. Яшчэ тры гады таму назад у чыжоўскай школе вывучала яе 100 прац. дзяцей. Занепакоеныя настаўнікі беларускай мовы на ўсялякі выпадак пазаканчвалі дадатковыя факультэты (Анна Лаеўская — паланістыку, Ян Карчэўскі — гісторыю).

У кленіцкай школе, дзе 113 вучняў і 23 дзяцей у прадшкольным аддзяленні, усяго трое вучняў не вывучае беларускую мову, сцвярджае дырэктар школы Ян Лобузінскі. Хаця, дадае ён з жалем, яшчэ пару гадоў таму вывучалі яе ўсе. У школе разыходзіцца каля сарака экземпляраў „Нівы".

Аляксандр Купрыяновіч, дырэктар курашаўскай школы, лічыць, што для навучання беларускай мовы шмат робіць „Зорка". Дзяцей прыцягваюць крыжаванкі, розныя адгаданкі, якіх у апошні час у „Зорцы" даволі многа. Варта было б даваць іх яшчэ больш.

Школа ў гмінных Чыжах ужо 9 гадоў не была рамантавана. Праўда, ёсць ужо рашэнне наконт рамонту, але перадрамонтнага балагану тут не відаць. Чысценька і парадак у класах. Ёсць у школе музейны куточак з цікавымі экспанатамі, сабранымі выключна дзецьмі. Старыя прылады, збаны, цэлая падборка прасаў і нават... старая шкляная мухалоўка.

Відаць, што ў гэтай школе ёсць гаспадары. Дзе хто бачыў, каб паабедаць сёння за 10 тысяч старых злотых! А ў чыжоўскай школе дзеці атрымліваюць такі танны абед. Школа мае 5 гектараў свайго поля, якое апрацоўваюць большасцю бацькі. Гадуюць і сваіх свіней, праўда, дзеля гэтага наняты спецыяльны чалавек.

Або ўзяць іншую справу. Школа пастанавіла, што 60 вучняў з VI-VIII класаў будуць садзіць лес. За зробленыя 10 мільёнаў зл. дзеці едуць на экскурсію, а VIII клас будзе мець грошы на заканчэнне навучальнага года.

Амаль усе дзеці ў школе — праваслаўныя. Рэлігіі вучаць іх вікарый Ян Сцепанюк і катэхетка Анна Раманчук. А да 19 дзяцей рымска-каталіцкага веравызнання даязджае 20 кіламетраў настаяцель з Нарвы — ксёндз Эдмунд Тараруй.

У Чыжоўскай гміне часта адбываюцца міжшколныя спартыўныя спаборніцтвы. Вось і цяпер дзеці трох школ рыхтаваліся да спаборніцтва, якое мела адбыцца 31 мая ў Курашаве. Усё як трэба — аж у 11 канкурэнцыях хлопцаў і дзяўчат, з выступленнем мастацкіх дзіцячых калектываў „Вясёлка" з Кленік, калектываў з чыжоўскай і курашаўскай школ.

### Інвестыцыі

Якія б не былі прыгожыя Чыжы, скромная сядзіба Гміннай управы і не занадта прасторны Гмінны асяродак культуры сведчаць пра іх вясковасць. Аглядаем ужо аднак пабудаваныя ў мінулым годзе фундаменты пад новы, „сапраўдны" будынак Гміннай управы, дзе будуць мясціцца таксама зала і бібліятэка ГОКу (каб было танней і зручней, кажа войт гміны). І хаця ў інвестыцыях на гэты год на далейшую будову новай сядзібы Гміннай управы выдзелена 400 млн. зл., не гэту справу лічыць войт у сваёй гміне найважнейшай. Справа першага плана тут — пабудова вясковага асяродка здароўя ў Кленіках. Якраз 14 мая, калі мне давялося пабываць у Чыжоўскай гміне, адбыўся сход двух салэцтваў, на якім быў выбраны Камітэт пабудовы на чале з бацюшкам Аляксандрам Высоцкім. Кошт будоўлі складзе 4,6 мільярда старых злотых. У гэтым годзе запланавана пабудаваць фундамент і першы паверх.

Трэцяя па важнасці інвестыцыя гэ-

*(працяг на стар. 10)*



*Дырэктары школ (злева): у Курашаве — Аляксандр Купрыяновіч, у Чыжах — Сяргей Насковіч, у Кленіках — Ян Лабузінскі.*

# У Кляшчэлях на рынку

Задумаў я паехаць у Кляшчэлі на рынак.

— Даўно не быў, сяброў наведаю, ды агурчыкаў прыхвачу свежанькіх, — кажу жонцы. Ды што ж зараз рабіць пенсіянеру?..

Панядзелак, 13 мая аказаўся не так ужо нешчаслівым, як гэта гаворыцца ў народзе.

У цягніку пачынаю гаворку з прыяцелем Янкам Вілюком, працаўніком кляшчэлеўскай пошты.

— Дык як там у Кляшчэлях? — пытаю сябрука. — Школу будаваць закончылі?

— Дзе ж там. Грошай не хапае, гаворыцца, што быццам у верасні...

Пацікавіўся я невыпадкова гэтай справай. Яшчэ ў палове 1994 года бурмістр казаў мне, што ёсць клопаты з бюджэтам, што будуць недахопы. Глядзеў ён тады аптымістычна на гэту інвестыцыю і заканчэнне будовы школы і ачышчальні сцёкаў прадбачваў на верасень наступнага года г.зн. 1995. Як бачым, не ўсё добра складаецца, як мы бы таго чакалі. Таксама і кляшчэлеўскаму самаўраду не атрымалася з будовай школы.

— А вас, здаецца, перанеслі ў новы будынак? — працягваю размову з сябруком.

— Зараз мы там, дзе даўней змяшчалася „Практычная гаспадыня", — паясняе субяседнік. — Побач мясной крамы...

— А што з будынкам пошты?

— Пустуе... Раён плаціць кватэрную плату, а мы „дабіліся" лепшых умоў на рабоце...

— Ці гэта эканамічна?

— Будынак патрабуе рамонту. Нашы тэлефаністкі скардзіліся ў раёне на цяжкія ўмовы працы. І дабіліся. Зараз паставілі аўтаматычную тэлефонную станцыю. Абмежавалі штаты...

— А што з тэлефаністкамі?

— Нікога не ўвольнілі. Некаторых перанеслі ў іншае месца, іншым прыходзіцца працаваць на паўстаўкі.

Калі я дабіраўся да кляшчэлеўскага кірмашу, ужо здалёк бачыў, што „камар тут носа не ўсуне". Ужо каля тратуара стаялі першыя прадаўцы. Адны прапанавалі часнок, іншыя цыбулю. Далей, доўгенькі радочак прадаўцоў з рассадай капусты і кветак для агародчыка. І памідоры, шмат памідораў-саджанцаў, усялякіх гатункаў. Малінавыя — нізкія, і жоўтыя — высакаствольныя. За адзін саджанец памідораў у фольгавай банцы прасілі па 5 тысяч старых зл., па 3 тысячы — са скрынкі. Свежыя агурчыкі з-пад фольгі па 33 і 35 тысяч зл., яблыкі — ад 16 да 30 тысяч зл.

Кожны прадавец хваліць свой тавар. А пакупнікі ходзяць і выбіраюць. Каб толькі танней! З процілеглага боку „агароднікаў" размясціліся гандляры вопраткай і абуткам. Чаго тут няма?! Каб толькі кашалёк вытрымаў!

Ёсць і аўталаўкі з прадуктамі. Цэны, вядома, меншыя тут чым у крамах. Таму і чэргі выстраіліся перад кожным аўтамабілем.

У гэты панядзелак можна было купіць і кухонную мэблю, і гарнітур для пакоя. Прадпрымальнік аж з-пад Эльбланга прыехаў. Хачу сказаць, што цэны былі наогул невысокія, Такую мэблю аглядаў я ў Беластоку і цэны былі амаль на мільён большыя. Прадаваліся таксама ў Кляшчэлях маразілкі, халадзільнікі, сціральныя машыны, ды іншыя электрапрыборы для кухні з двухгадовай гарантыяй, як у краме.

Селянін мог сабе купіць у аўтакраме запчасткі для трактара ці іншай сельскагаспадарчай машыны.

У канцы базару згуртаваліся сяляне. Хто з парасяткамі, хто з авечкамі, хто з зернем. Парасяты цаніліся (парачка) па 1 400 тысяч. Не надта маленькія. А за бульбу прасілі па 150 тысяч старых злотых. Ці гэта выгадна селяніну? Напэўна — не! Ды што ж зробіш, калі няма збыту? Трэба жыць! І думаць, і меркаваць, каб самому пражыць і сям'ю пракарміць. Такі ўжо час прыйшоў!

Кляшчэлеўскі кірмаш пакідаў я ў поўным яго разгары. Было гэта каля дзявятай гадзіны зранку. Аформіў усё патрэбнае. Сустрэў многа знаёмых з Кляшчэляў і акалічных вёсак, дзе калісьці вандраваў з кінаперасоўкай. Прыемная гэта была сустрэча.

Варта было наведаць Кляшчэлеўскі кірмаш!

**Уладзімір Сідарук**

# Зладзеі ў школе

Гавораць, што нагода спакушае зладзея. Так, мабыць, было ў выпадку ўзлому, які здарыўся ноччу з 16 на 17 мая ў школе ў Дубічах-Царкоўных. Школа знаходзіцца ў старане, што прыцягвае аматараў лёгкай нажывы. Старожка, якая ў пятніцу раніцай адкрыла дзверы школы, заўважыла сляды ўзлому. Неадкладна паведаміла яна дырэктарку школы і паліцыю. У школьны будынак маглі ўваходзіць толькі працаўнікі, вучні чакалі на пляцы, пакуль паліцыя зробіць агляд і саставіць пратакол. Зладзеі вынеслі са школы відэаапарат „Соны" і тры гукаўзмацняльныя калонкі. Каб дабрацца да іх, зладзеі зламалі трое дзвярэй.

Школа пацярпела адносна невялікія матэрыяльныя страты, але пры гэтым выявіліся грамадска-маральныя пытанні. Сам Гасподзь Бог у восьмай запаведзі загадаў не красці. Але нягледзячы на тое, што Польшчу ў асноўным насяляюць хрысціяне, штораз часцей божыя запаведзі не выконваюцца. Сацыёлагі, якія даследуюць з'яву злачыннасці, заўважаюць рост абыякавасці на крыўду суграмадзян. Народ перш за ўсё дбае пра сваю бяспеку, не жадае ўмешвацца ў чужыя справы дзеля чыстага сумлення. А ўсё гэта бярэцца ад запалоханасці. І толькі тады, калі нас саміх спасціргне злачынная рука, адчуваем бяздарнасць, адзіноцтва, жаль да ўсяго свету за яго эгаізм і абыякавасць.

Крадзеж у школе ўзбударажвае ўсю школьную грамадскасць. У дзень, калі выявілі ўзлом, план заняткаў быў парушаны, а дзеці на ўроках не маглі аб нічым іншым гаварыць, як толькі аб здарыўшымся. Малодшыя вучні гулялі ў паліцыянтаў і зладзеяў. Вярнуўшыся дахаты, дзеці з палаючым тварам расказвалі аб украдзеным „відзіку", замяшанні ў школе і працы паліцыянтаў. Калі ўкрадзеныя прадметы не вернуцца ў школу, абазначаць гэта будзе, што паліцыя зноў прайграла са зладзеямі. Некаторыя падумаюць, што аплачваецца красці, а нехта можа і сам паспрабаваць гэтага занятку. З другога боку бяздзейнасць органаў вышку робіць зладзеяў больш нахабнымі і заахвочвае іх працягваць сваю злачынную дзейнасць. Асабліва важнай справай з'яўляецца праца з дзецьмі і моладдзю, паколькі ніхто не нараджаецца злачынцам, а становіцца ім у выніку выхаваўчых памылак.

Прычынай росту злачыннасці, апрача беспрацоўя, алкагалізму, наркаманіі і іншых паталогій, з'яўляюцца таксама неадпаведныя відэафільмы, якія адмоўна ўплываюць на псіхіку дзяцей і моладзі. Некаторыя амерыканскія баевікі гэта ж чысты інструктаж для злачынцаў-пачаткоўцаў. Каб прыпыніць усплёск злачыннасці, нельга спадзявацца толькі на паліцыю. Трэба нам усім рэагаваць на адмоўныя з'явы ў грамадстве і дапамагаць сабе ўзаемна ў змаганні з парушальнікамі правапарадку.

**Славамір Кулік**

# Другі Сакрат у Крынках не з'явіцца

*(працяг са стар. 1)*

жаш... А культура, як ведаеш, мае элітарны характар. Культура — гэта неабавязковая актыўнасць чалавека. Яе ствараюць людзі, якія маюць свабодны час і якія не прымушаны ўедліва думаць пра хлеб. Культура да бедных людзей даходзіць вельмі позна і памалу. Звярні ўвагу на тое, што ў нас у школу пасылаюць дзяцей для хлеба, а не таму, каб яны былі разумнейшыя.

Гледзячы на наш народ, які панічна ўцякае з вёсак і пераносіцца ў гарады, я నават, іншы раз, цешуся, што гэтыя пагарджаныя вёскі апусташэлі, таму што жылося ў іх нялюдска. Смутнае, аднак, тое, што за паляпшэнне свайго лёсу нашы людзі плацяць стратай свае мовы і душы. Але, з чыста чалавечнага пункту гледжання, думаю сабе: **чорт з імі, хай і не будзе тых беларусаў, хай яны прынамсі жываты сабе загадуюць...**

Мой дзядзька, патомны земляроб, прадаў добрую гаспадарку польскай сям'і з Беластока за „шчасце" пасяліцца ў „блёку" і стаць начным старажам з гарантаванай выплатаю... Каму ў Еўропе гэта ясна?

***— У сваёй саракагадовай творчасці амаль увесь час вяртаешся з чужога Табе Беластока ў Крынкі. Цяпер, калі ўжо жывеш у Крынках, ці адчуваеш, што вярнуўся Ты ў сваю Ітаку?***

— Не, абсалютна не. Цяпер я тут чужы сярод сваіх. Я ў жыцці зрабіў такое вялікае кола: дзяцінства ў Крынках, у маладосці пайшоў вучыцца ў Беласток і там застаўся на ўсё сваё актыўнае жыццё, таму што ў Крынках не бачыў тады сабе месца. Тут было цесна і людна. І калі маё жыццё ў асноўным закончылася, вярнуўся туды, адкуль выйшаў. Ды Крынкі, якія памятаю з дзяцінства, і Крынкі, якія вось бачу цяпер — гэта дзве розныя мясціны. Тут такія самыя ўсяго некаторыя будынкі, завулкі, магілкі, але людзі ўжо не тыя. Старыя даўно вымерлі, а мае равеснікі недзе ў белым свеце. Сучасныя Крынкі — абыякавыя для мяне, жыву ў іх і, адначасна, як бы побач іх. Трохі кватарант з мяне ў бацькоўскім старонні. У маё дзяцінства такога „тутэйшага", што гаварыў у нас на польскай мове, успрымалі як дзівака, а самую з'яву — як псіхічную анамалію або жарт. Цяпер жа ўсё наадварот: такія рэакцыі выклікае якраз аўтахтонная, беларуская мова. Крынкі сёння ўшчэнт паланізаваныя. Старэйшыя людзі яшчэ гавораць на роднай, але не трактуецца яна як нацыянальная, а ўсяго толькі як мужыцкая, клятая, свая, непрэстыжная, простая. Пра маладых няма што і гаварыць, яны стопрацэнтныя паляк. Усе дзеці, у тым ліку і праваслаўныя, заяўляюць: proszę mówić do mnie po polsku, proszę pana, nie po rusku.

Гэта мая Ітака, як бачыш, ужо Антытака, не тая, якую я пакінуў у маладыя гады. Праблемамі цяперашніх Крынак я не жыву, тут у мяне толькі дом, адрас, месца, дзе добра сябе адчуваю. З мясцовым асяроддзем не маю я ніякіх кантактаў і не шукаю іх. Крынкі жывуць ува мне як успаміны. Нагадваюць мне яны магілкі, па якіх я хаджу і ўспамінаю. Гэта могільнік былой духоўнасці. Крынкі афрыканізаваліся, зрабіліся вельмі каланіяльнымі, яловымі, жывуць люстраным адбіццём завезенай сюды культуры, вульгарна патрацішы сваю, арыгінальную, духоўную спадчыну.

Я закончу так: нягледзячы на радасную паланізацыю Крынак, яны застануцца беларускай мясцінай, бо... ад імя Сакрата Яновіча нікуды яны не ўцякуць, а роўны мне паляк тут не хутка ў іх з'явіцца.

Культурнасць у шчаслівых асімілянтаў заўсёды павярхоўная, фестывальная, паказная, бы ў неафітаў; глыбіня і геніяльнасць прыходзяць, аднак жа, з вякамі. Таму я спакойны за... беларускасць самаапалячаных Крынак. Помста духа апошняга з магіканцаў?

***— Дзякую за размову.***

# Тутэйшыя ў Адэсе

*(працяг са стар. 1)*

вары з усіх краін Міжземнага мора. На жаль, цэны нават выпэйшыя за нашы.

Пабачыўшы цэны, пачынаеш думаць, як жывуць тут людзі. Усе адказваюць, што грошы мае толькі нейкая пятая частка жыхароў. Паколькі ў горадзе пражывае паўтара мільёна людзей, пятая частка гэта нейкіх трыста тысяч. Хопіць, каб запоўніць цэнтр горада. Дарэчы, прагуляўшыся па Дэрыбасаўскай некалькі разоў туды і назад заўважаеш, што не надта яна і доўгая.

Астатнія, чатыры пятыя насельніцтва, ледзь зводзяць канцы. Адэса была галоўным портам Савецкага Саюза. У чарнаморскім параходстве і звязаных з ім прадпрыемствах працавала сто тысяч чалавек. Падчас распаду Саюза найлепшыя караблі па загаду з Масквы адплылі ў Санкт-Пецярбург і іншыя расейскія парты. Тое, што засталося, за бясцэнак распрадала ў іншыя краіны карумпаваная дырэкцыя параходства. Дырэктар сядзіць у турме, але што з таго — караблі даўно за морам.

Ледзь дыхае аграмадная прамысловасць Адэсы. З кім не пагаворыш, аказваецца, што яго завод стаіць. Зрэшты, працуе прадпрыемства, ці яно не працуе, не так і важна, бо ніхто не атрымаў зарплаты за апошнія паўгода.

Як выжываюць пенсіянеры, якія атрымоўваюць па тры мільёны карбаванцаў, цяжка зразумець. Бохан хлеба каштуе 80 тысяч. А што сказаць пра студэнтаў са стыпендыяй у адзін мільён?

Нэндзы і голаду ўсё-такі не відаць. Горад быў багаты, дык людзі прыядаюць, што раней нажылі. Хто змог, узяў участак і карпатліва абрабляе зямлю. Такім чынам праходзіць працэс „афрыканізацыі". Як і ў Беларусі, асноўнай прыладай становіцца матычка.

Шмат што каштуе непараўнальна менш, чым у нас, напрыклад, кватэрплата і г.п. З другога боку, цёплая вада паяўляецца ў кранах толькі раніцай і вечарам. Ноччу і ўдзень увогуле вады не бывае. Усё-такі кажуць, што і раней з вадой былі клопаты, бо Адэса ляжыць на бязводным месцы.

Зусім дармовы гарадскі транспарт, але дагарае. Трамваі сталі нечым вельмі рэдкім. Асноўную колькасць пасажыраў правозяць тралейбусы. Язда тралейбусам у гадзіны пік наводзіць успамін маіх мучэнняў у трамваі на трасе Нова Гута — цэнтр Кракава пад канец васьмідзесятых. Не ўсюды транспарт ходзіць, і некаторыя прымушаны дабірацца на працу пехатою, хаця б і гадзіну. Праўда, ёсць камерцыйныя мікрааўтобусы, але праязны талон каштуе 100 тысяч карбаванцаў. Такім чынам, трэба было б усю зарплату аддаць на праезды. Кажуць, большасць людзей і так сядзіць дома, бо няма куды ні ездзіць, ні хадзіць.

Якраз у Адэсе быў намеснік прэм'ерміністра Украіны. Пыталіся яго людзі, калі нарэшце атрымаюць зарплату. Той адказаў, што адэсіты — народ прадпрымальны і неяк яшчэ пражывуць. Грошы трэба даваць перш за ўсё шахцёрам Данбаса, бо тыя ўжо бунтуюць.

Магчыма, урад і не памыляецца, бо настрой у Адэсе надзіва спакойны. Хаця з выездам амаль усіх з чатырохсот тысяч яўрэяў прапаў мясцовы каларыт, — тутэйшы народ як быццам мякчэйшы і больш ветлівы, чым у іншых постсавецкіх гарадах.

Патэнцыял у Адэсы аграмадны і горад безумоўна выжыве. Аднойчы зайшоў я ў кафэ, дзе прывітаў мяне гаспадар-амерыканец Дык. Па адукацыі ён гісторык, заінвеставаў 15 тысяч долараў. Як жартаваў, за гэтыя грошы ў Амерыцы змог бы купіць толькі малы буфет, а тут ён — саўласнік рэстарана. Паводле Дыка, Украіна — гэта краіна неабмежаваных магчымасцей.

Не думаю, каб хутка збыліся мары ўкраінцаў пра самастойную і багатую дзяржаву. Культурнай украінізацыі Адэсы проста сабе не ўяўляю. Тым не менш, у Адесе жыве надзея.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

# Успаміны Яна Жака

*Ян Жак, 1909 года нараджэння, апавядае пра бежанства ў Эстонію, пра цяжкасці пасля вяртання на радзіму, пра лагер для ваеннапалонных у Асташкаве, пра партызанку пад нямецкай акупацыяй, пра канцлагер у Штутгафе і пра падзеі наступнага пасляваеннага перыяду.*

Мой бацька пры цары служыў на чыгунцы ў Беластоку і астатнім поездам з салдатамі ад'язджаў, як немцы находзілі. Нашу сям'ю завезлі ў Чарнігаўскую губерню на станцыю Унеча. Там бацька таксама служыў на чыгунцы, а як прыйшлі саветы, то бацьку перамясцілі у Эстонію. Ну то і сям'ю ён таксама ў Эстонію сцягнуў. Бацька служыў там спярша бальшавікам, пасля эстонцам, а плаціць не было каму. Людзі там добрыя былі, карміл нас, бо не было ні грошай, нічога. Я хадзіў у эстонскую школу; гадзіну ці дзве вучылі па-руску, а рэшту па-эстонску, я ўжо добра разумеў іх мову. У 1920 годзе эстонцы сказалі бацьку, каб прыняў эстонскае падданства, то будзе далей на чыгунцы служыць. Бацька сказаў: „Я нікому не падпісваў, то і вам не падпішу". То яму адказалі: „Калі не хочаш прымаць эстонскага падданства, то мы дамо вагон і едзь туды, адкуль прыехаў". Далі яны яшчэ пару грошай, вагон і так мы вярнуліся ў Беласток. Пайшоў бацька на чыгунку, каб прынялі на работу, старога служачага. Спачатку то не хацелі прымаць, бо ўжо тут была санацыйная Польшча, але бацька сказаў: „Я ўжо тут трыццаць гадоў прарабіў". І прынялі на работу. Нанялі прыватную кватэру. Пытаюць цяпер матку, якая яе сям'я. Маці адказала, што бацькі яе ў Расіі загінулі, адзін брат забіты, а другі брат і дзве сястры знаходзяцца ў Расіі. А гаспадарка вялікая? — пытаюць. Вялікая. Калі так, то едзьце на гаспадарку, — сказалі. А бацька на гаспадарцы рабіць не ўмее. Прыехалі мы на гаспадарку, у Каўпакі, а там у дзядавай хаце сядзіць чужы чалавек, бандзёр такі, Нікалайчук называўся, паляк, і кажа: „Цяпер тут наша Польшча, едзь назад куды хочаш, я вас сюды не пушчу". Прыйшла *ўладза* і прыказала, каб ён уступіў. Па нейкім часе ён уступіў нам. І так караталіся на той гаспадарцы. А як у дваццатым ішлі бальшавікі на Польшчу, то бацька далей на *калеі* служыў у Беластоку. Усім служыў, а няма каму плаціць. І канчаткова вырашыў бацька вяртацца на гаспадарку. І так тут таўкліся цэлы час. Нажылі каня, сталі зямлю абрабляць. Я да трыццатага года быў цэлы час пры бацьках. У трыццатым узялі мяне ў войска, у Беласток, у конную артылерыю. Пасля войска ажаніўся. У 1939 годзе быў змабілізаваны на вайну, у Саколку, у санітарны табар. Ваявалі мы з немцам, можна сказаць, голымі рукамі. Польшча не мела зброі, не было ні танкаў, ні самалётаў. Быў на фронце аж да канца вайны, пакуль Польшча скапітулявала. Трапіў я ў палон і немцы загналі нас аж у Ковель. 18 верасня прыляцелі савецкія самалёты, высыпалі афішкі на польскай і рускай мовах, каб мы не давалі адбою, бо яны ідуць нас вызваляць. Палякі загарачыліся: „Не дамы се кацапом!" Але нас беларусаў было больш і мы сказалі: „Не". І вечарам паручнік склікаў сход і сказаў: „Кто хцэ воёваць, то ў ноцы рушымы ў керунку на Румуніе і бэндзем ешчэ воёваць, а кто не хцэ, то гдзе хцэ". То мы, беларусы, кажам: „А чаго ж мы пойдзем далей?" І мы асталіся ў Ковелі. А некаторыя польскія часці адбіваліся, і нанеслі рускім вайскам страты. То рускія сказалі: „Як так, то не туды дарога", і пачалі нас, якія ўжо вярталіся дадому, усіх лапаць. У вагоны і на востраў Селігер, у Асташкаў, у Калінінскую вобласць. На тым востраве пры цары былі манастыры, там манахі жылі. Тартак там быў. Памерці то там нельга было, бо давалі нам *паўкіля* хлеба, літр супу рыбнага; рыбы не. Прабылі мы там амаль да снежня. Праводзілі перапіс. Ну, мы, беларусы, то знаді крыху лепей па-руску і тлумачылі, бо былі такія палякі, што нічога па-руску не разумелі. То я пытаў іх па-польску і тлумачыў на рускую. Ну, рускай то я таксама добра не ўмеў, але якась дагаворваліся. Нас там было дванаццаць тысяч польскіх вайсковых. Загналі нас у тыя манастыры, а яны былі падчас рэвалюцыі разбіты, то мы выбіралі, дзе хоць дах цэлы, каб не цякло. Прыказалі нам рабіць нары ў тых цэрквах; парабілі тыя нары і на тых нарах качаліся. Апанавалі нас вошы. У снежні нас рассартавалі: хто па гэты бок Буга, то сказалі збірацца, а хто з таго боку, што пад немцам астаўся, то рускія сказалі: „Мы сілы рабочае немцам не дамо, бо нам патрэбна". Некаторыя афіцэры не маглі перанесці гэтага палону і пачалі ўчыняць самагубствы. Мы мелі з сабою пледы, і яны абвівалі галаву пледам і пачалі тапіцца ў Волзе. Пры мне чатырох афіцэраў утапілася. То пасля саветы паставілі *голубятники* навокал, і на пяцьдзесят метраў да ракі ні кроку! Далі нам пасля катлы, каб мы той свой бруд выварвалі. Пасля нас *баржамі* завезлі на станцыю ў Асташкаве; таксама, як і привезлі. Пагрузілі нас у поезд і прывезлі ў Мінск і павялі да вайсковай кухні. Пакармілі нас і завезлі ў Баранавічы, на тэрыторыю былой Польшчы, далі па паўбулкі хлеба і сказалі: „Прывезлі вас у Польшчу і цяпер ступайце, куды хаціце". Што сталася з тымі, што асталіся, што былі з-за Буга, не знаю; кажуць, што іх расстралялі. Пры мне ў Асташкаве нікога не расстралялі. З Баранавіч прыехаў я поездам у Жэдню, а з Жэдні пяшком у Каўпакі прыйшоў. Мяне прывіталі як пакойніка, бо ніхто не ведаў, што я жыву. Клічуць мяне ў хату, а я кажу што дахаты не пайду — дайце мне адзенне, я апрануся, а гэта, вайсковае, хай ляжыць на падворку.

***(заканчэнне будзе)***

Запісаў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Літаратары-аматары

23 мая ў Бельскім доме культуры прайшло падсумаванне I Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Конкурс — пад патранатам Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку і „Нівы" — арганізаваў Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай. Фінансава мерапрыемства ўспамаглі Фонд культуры, паліграфічная фірма „Orthdruk" ды Цэнтр фатаграфіі і прамоцыі *Classic Studio* ў Беластоку.

Сярод удзельнікаў конкурсу пераважалі вучні пачатковых і сярэдніх школ. Але былі і старэйшыя, у тым ліку лепшыя ніўскія карэспандэнты: Ірэна Лукша-„Аўрора", Мікалай Лук'янюк і Мікалай Панфілюк. Арганізатары прыдбалі кожнаму скромны грашовы падарунак, кніжкі, альбомы.

Узнагароды пераможцам уручалі: старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, дырэктар Ваяводскага аддзела культуры, спорту і турызму Казімеж Дэркоўскі і галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Мірановіч. Творчасць удзельнікаў у кароткім слове падсумавала старшыня конкурснай камісіі Надзея Артымовіч:

— Нашы маладыя аўтары стаяць перад падвойнай цяжкасцю. Яны не жывуць у беларускай моўнай стыхіі і не вырастаюць у кантэксце беларускай літаратуры. Тым больш яны варты пахвалы, што не пабаяліся спрабаваць свае сілы. І за працу, укладзеную ў падрыхтоўку твораў. Я хацела б таксама адзначыць тых людзей, якіх штодзённыя клопаты, здавалася б, далёкія ад літаратуры — сялян. Іх пранікнёныя любоўю да роднага вершы цэнныя перад усім з увагі на іхнюю аўтэнтычнасць.



*Арганізатары конкурсу: Яўген Вапа — старшыня Беларускага саюза і Валянціна Швед — інспектар Аддзела культуры Ваяводскай управы.*



*Галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Мірановіч (злева) з лаўрэатамі конкурсу: Юркам Буйнюком, Мікалаем Лук'янюком, Мікалаем Панфілюком і Ірэнай Лукшай.*

Пасля падсумавання вынікаў (чытай: „Ніва" н-р 17 ад 28 красавіка 1996 г.) і ўзнагароджання пераможцаў, кожны вылучаны аўтар прачытаў адзін—два творы. Як у кожнай пачатковай літаратуры, дамінавала паэзія. Але былі прачытаны і два фантастычныя апавяданні. І нават балада з мараллю для бацькоў пра маладую каралеўну, якой так хацелася кагосьці пацалаваць. Гэты твор, напісаны ліцэістам з Бельска Тамашам Лукашуком, яшчэ лепш гучаў як песня пад акампанемент піяніна аўтара і гітары ягонага школьнага сябра — таксама ўдзельніка конкурсу — Лукаша Сцепанюка. Найстарэйшы ўдзельнік конкурсу, як сам пра сябе сказаў Мікалай Лук'янюк, глядзячы на літаратурную моладзь, не стрываў расчуленасці, праслязіўся.

Сустрэча завяршылася фундаваным арганізатарамі пачастункам. Вялікі стол у адной з залаў Бельскага дома культуры аж гнуўся ад яблык, бананаў, усялякіх ласункаў і напіткаў. Быў час на свабодную, нічым не абмежаваную размову.

Крыху раней дырэктар К. Дэркоўскі абяцаў падтрымку Ваяводскай управы для чарговых выпускаў гэтай вартаснай ініцыятывы. А Яўген Мірановіч зрабіў намёк на тое, што добра было б, каб сёлетнія ўдзельнікі ўбачылі свае творы пад адной вокладкай пасляконкурснага выдання. **(ак)**

# Кніжны шоў

У прэсавае бюро заходзіць жанчына ў арганізацыйным мундзіры: у белай кофце, цёмна-сінім жакеце і такога ж колеру спадніцы крышачку вышэй кален. Цяжка валіцца ў фатэль: „Як я мару, каб быў ужо аўторак!"

Але пакуль што — пятніца 17 мая, трэці дзень і сама сярэдзіна 41 Міжнароднага кірмашу кніжкі ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве. Трэцяй, паводле велічыні, кніжнай ярмаркі ў свеце — пасля Франкфурта-на-Майне і Чыкага — як усюды, не без гонару, падкрэсліваюць арганізатары.

Зараз паабапал галоўнага ўвахода ў найбольшы помнік сталінскай архітэктуры (а мо і наогул найбольшы будынак) у Польшчы навальваецца на гледача кніжная маса. А яшчэ больш людзі, якія гэтай масай гандлююць. Прапануюць рэкламы, каляровыя плакаты, значкі, блакноты, запрашаюць на розныя дадатковыя імпрэзы, тыпу сустрэча з аўтарам ці дармовая прэзентацыя мастацкага фільма. Усюды гудзе як у вулею, а выдаўцы і кнігары пераганяюць адзін аднаго ў вынаходстве атракцыяў.

У сектары ганаровага госця сёлетняга кірмашу — Рэспублікі Славакіі — льецца музыка капелы ў гуральскіх уборах і піва. Выдавецтва „Muza" SA развесіла над сваім месцам жоўтае палатно, ствараючы такім чынам вялізную палатку, у якой цвыркаюць жоўтыя канарэйкі, вабяць наведвальнікаў каляровыя папугаі і такія ж рыбкі за шклом акварыумаў. Калі толькі прыстанеш ашарашаны гэтымі дзівамі, тут жа з'явіцца зграбная, маладзенькая і даўганогая дзяўчына ў вельмі кароценькай спадніччы і ў фірменнай жоўтай блузцы, каб з чароўнай усмешкай спытаць, ці ў чым-небудзь не дапамагчы.

Але нягледзячы на гэтыя гандлёва-рэкламныя прыёмы і атракцыі, безумоўна, галоўны герой шасцідзённага беспрапыннага свята — кніжка, расстаўленая на плошчы ў некалькі гектараў, у сама менш сотні залаў. Ходзіш між кніжкамі, некаторыя бярэш у рукі, гартаеш, захапляешся. З цягам часу ўражанні блытаюцца, забываеш тое, што ўжо бачыў, не кажучы пра тое, што не ведаеш, дзе ты апынуўся, дзе жаданы выхад. І поўнасцю разумееш мару жанчыны з прэсавага бюро, якой трэба ўсё дапільнаваць да канца.

Сярод мора выдаўцоў апынуліся і беларускія. Дзяржаўны камітэт прэсы заняў зручную пазіцыю, нумар 470, на чацвёртым паверсе (побач падпісвалі свае кніжкі, між іншым, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш, Тадэвуш Ружэвіч). Камітэт прывёз з сабой такія выдавецтвы, як: „Беларуская энцыклапедыя", „Беларусь", „Вышэйшая школа", „Мастацкая літаратура", „Юнацтва", „Полымя", „Народная асвета" і некалькі меншых фірмы, якія займаюцца аптовым і рознічным кніжным гандлем.

„Народная асвета" з нагоды кірмашу атрымала ўзнагароду Фонду польскай культуры за прамоцыю польскай культуры. А дакладней, за выданне 18 падручнікаў, для класаў I—IX, у тым ляманатара, тыражом у 252 тысячы экзэмпляраў.

На фоне міжнародных лідэраў беларускія выдаўцы не захапілі. Хаця прэзентавалі даволі салідныя рамясло, я б сказаў у крыху ніжэйшых партыях сярэдняга ўзроўню. У мастацкай літаратуры ўсё дамінуе тып кніжкі, выпрацаванай савецкім часам — з цвёрдымі тоўстымі вокладкамі і шэрай паперай усярэдзіне. У камерцыйнай дзіцячай літаратуры яшчэ слабаватыя, прыгашаныя колеры і выразная дамінацыя рускай мовы.

**Мікола Ваўранюк**

# Даведнік аб меншасцях

У пачатку гэтага года выйшаў з друку інфарматар аб дзесячах, арганізацыях, стане асветы і культуры нацыянальных меншасцей у Польшчы ў 1994 г. Выдала яго Сеймавая Камісія па справах этнічных і нацыянальных меншасцей, а распрацавалі выданне былыя супрацоўнікі Бюро па справах нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

У кніжцы змяшчаецца аналіз польскага і міжнароднага заканадаўства, якое датычыць юрыдычных гарантый развіцця культуры, асветы і арганізацыйнага жыцця меншасцей. Адзін раздзел у даведніку прысвечаны палітычнай актыўнасці непалякаў у Польшчы пасля 1989 г. Найбольш месца рэдактары адвялі біяграфіям палітыкаў, дзеячаў і стваральнікаў культуры ад кожнай меншасці.

У 1994 г., паводле інфармацыі, якой распараджалася Міністэрства культуры і мастацтва, найбольшай беларускай арганізацыяй быў Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай (стар. 6). Арганізацыі, якія ўваходзілі ў структуры Саюза, вялі выдавецкую і навуковую дзейнасць, арганізавалі шмат канферэнцый і мерапрыемстваў культурнага характару, адпавядаючых інтэлектуальным патрэбам сучаснага чалавека. Культурную спадчыну нашых прадзедаў, традыцыйна і ў знакаміты спосаб ахоўвала Беларуская грамадска-культурнае таварыства.

Складальнікі даведніка ў лік беларускіх арганізацый запісалі Праваслаўныя брацтвы і Таварыства беларускіх прадпрымальнікаў. Гэта апошняя арганізацыя пакуль што яшчэ публічна не заявіла пра сваё існаванне. Ёсць у кніжцы яшчэ некалькі іншых памылак. „Ніва" — паводле даведніка — толькі праз год будзе адзначаць юбілей саракагоддзя свайго існавання, „Przegląd Prawosławny" друкуецца на беларускай мове (стар. 7), а на хвалях Беластоцкага радыё кожны дзень можам слухаць паўгадзінныя радыёперадачы на беларускай мове (стар. 8). Бэгакатоўскія калектывы з Краснага Сяла, Курашава, Дабрывады, Арэшкава, Кнарыд памешчаны ў ліку ўкраінскіх, а іх назвы перакручаны горш, чым у часопісе бельскіх украінцаў „Над Бугом і Нарвою" (стар. 236).

Нягледзячы на гэтыя памылкі, даведнік мае вялікую вартасць з увагі на тое, што з'яўляецца ён адзінай такой крыніцай ведаў пра ўсе меншасці, якія жывуць сёння ў Польшчы. Хто напрыклад ведае, што ў Польшчы ў 1994 г. дзейнічала 66 нямецкіх арганізацый. Наш праваслаўны народ наракае, што ў нас зарэгістравана аж 7 (!) беларускіх арганізацый і цяжка ва ўсім гэтым разабрацца. І хаця часта чуецца пытанне: навошта тое гістарычнае таварыства, літаратурнае ці студэнцкае аб'яднанні, ці не лепш было б, калі б была адна „вядучая сіла", то трэба памятаць, што маем цяпер такія прынцыпы дэмакратыі, якія дазваляюць яднацца людзям паводле іх волі. Без абмежавання гэтым правам карыстаюцца людзі ў найболш цывілізаваных краінах свету. Гэта вельмі добра, што таксама беларусы пачалі ствараць структуры неабходныя для існавання нацыі. Шкада толькі, што так позна.

**рэд.**

*Mniejszości narodowe w Polsce. Informator 1994*, wyd. Wydawnictwo Sejmowe, red. B. Berdychowska, P. Kazanecki, P. Madajczyk, D. Szamel, L. Wierzycka, Warszawa 1995.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### Сучасны сабака

— Мой сабака — кажа Шурка —
І разумны, і таропкі.
Як вяртаецца з прагулкі
Націскае званка кнопку.

Усміхнуўся толькі Лёня:
— Мой сабака больш сучасны,
І зусім ужо не звоніць,
Бо ў яго ёсць ключ уласны.

### Чаму стукоча дзяцел?

— Што гэта за птушка? —
Доня пытае маці.
— Дык гэта ж, дачушка,
Карысны вельмі дзяцел.

— Чаму ж ён безупынна
Страшэнна так стукоча?
Можа у шчыліну
Яго ўпусціць не хочуць?

## Бачаць намнога больш



На здымку (злева) **Каміля Лабузінская, Юліта Гаўрылюк, Агнешка Качаноўская, Аня Саеўская**. Усе дзяўчаты чароўна малююць. Іх працы мы не раз змяшчалі ў „Зорцы".

Наймалодшая, Каміля, вучаніца пятага класа. Яе талент дацанілі ўсе ўдзельнікі III Сустрэч „Зоркі". Тады заваявала яна галоўны прыз (10 літраў кока-колы) на найсмяшнейшы сяброўскі шарж. Намалявала яна Лёніка Тарасэвіча, які вёў заняткі ў мастацкай групе. Каміля жыве ў Кленіках. Яна і яе брат Лукаш пастаянна ўдзельнічаюць ва ўсіх конкурсах „Зоркі".

Сяброўка Камілі, Аня Саеўская, таксама прыгожа малюе і дасылае нам карэспандэнцыі. Аня ходзіць у VI клас. Яна таксама родам з Кленік. У шостым класе вучацца таксама Агнешка і Юліта. Дзяўчаты жывуць і вучацца ў Чыжах. Іх малюнкі ўжо некалькі гадоў упрыгожваюць нашую старонку. Зараз друкуем малюнак Камілі Лабузінскай. Аказваецца, што таленавітыя мастакі бачаць намнога больш, чым нам здаецца. Нават калі яны пяцікласнікі. Малюнак гэты ўзнік пад уплывамназіранняў тэмы: „Як гуляюць і адпачываюць дарослыя".

**Зорка**

*Фота Г. Кандрацюк*




## У Кленіках мая школа

Мне вельмі падабаецца мая школа. Знаходзіцца яна ў самім цэнтры Кленік. Ля школы стаіць прыгожая вялікая царква. Навокал школы растуць кветкі. За школай ёсць спартыўная пляцоўка. Класы ў школе вялікія і прасторныя. У залах многа зялёных кветак. Нашай выхавацелькай з'яўляецца пані **Ніна Кабац**. Наш клас вясёлы і мілы. Налічвае 15 вучняў, у тым ліку 7 дзяўчат і 8 хлопцаў. У нашым класе прыгожыя хлопцы і дзяўчаты. Сябруем усе, жывем дружна. Мы вельмі любім займацца спортам.

Я вельмі цешуся, што вучуся ў гэтым класе і ў такой прыгожай школе.

**Галіна Белавежац**
**VI клас ПШ у Кленіках**

## Вяселле нашых продкаў

***(працяг)***

Вечарам перад шлюбам дзяўчына спраўляла *паненскі вечар*, хлопец — *кавалерскі*.

Заручаная склікала ўсіх сяброўак віць вянок. Вянкі рабілі са стужак, каляровай паперы (улетку — з жывых кветак). Пры гэтым дзяўчаты ўвесь час спявалі. У песнях паяўляліся матывы сугучныя з дзеяннем: „пачынаем вянок віці", „мая дочка ў садочку вяночкі звівае", „падай, мама, іголку". На паненскі вечар запрашалі музыку. Спачатку акампанаваў ён спяваючым паненкам, пазней іграў моладзі да танца. Песні, якія спяваліся ў гэты вечар, былі сумныя і адпавядалі настрою маладой і яе бацькоў. Звіўшы вянок, яго прымервалі на маладую, а тая ў вянку кланялася і цалавалася з бацькамі, сяброўкамі. Пасля кожная дзяўчына прымервала той вянок, а ўсе разам перасоўвалі з месца стол, ламалі іголкі, выкідалі за дзверы абрус — гэта былі магічныя практыкі, у якіх выяўлялася жаданне выйсці замуж.

Кавалерскі вечар спраўлялі ў хаце маладога. Ён запрашаў сваіх сябровў (нежанатых) і сяброўак. Хлопец успамінаў найлепшыя дні халасцяцкага жыцця. Большасць вечара займала развітанне з кампаніяй і танцы.

Звычайна перад вяселлем пяклі каравай. Гэта была найважнейшая на вяселлі страва (цяпер замест каравая пякуць тарты). Каравай пяклі запрошаныя кабеты. У час працы спявалі яны каравайныя песні. Караваем пачыналася і канчалася вяселле.

***(працяг будзе)***

## Вострая Бародка

Чэрвеньскае сонца шчодра рассыпала свае прамяні. Яны жэўжыкавата бліснулі ў шыбах школьнай залы, а адзін з іх пачухаў Толіка Ягаду ў затылак галавы. Ягадка — так яго празвалі ў новай школе, — як і ўвесь клас — мучыўся з задачкамі Вострай Бародкі. Усе настаўнікі з надыходам веснавой цеплыні дазвалялі адчыніць на час урока вокны, каб пах буйнай зелені і траў мог пранікнуць у залу. Толькі адзін Вострая Бародка не дазваляў. Ён гаварыў, што з надыходам вясны адна дурнота лезе ў галаву вучню замест прыкладнай вучобы.

Вострая Бародка выдатна заслугоўвау на сваю мянушку. У класе стаяла духата, вокны былі закрыты, не даходзіў сюды ні шчэбет птушак, ні пах зелені. Вучні круціліся на сваіх месцах, а Бародка нібыта драмаў, гайдаючыся ў крэсле. То ўперад, то ўзад. Камізэлька ў Вострай Бародкі пад цеснаватым касцюмам была зашпілена да апошняга гузіка. Шыю душыў яму такі ж цесны каўнер і моцна зацягнуты гальштук — на паўлысай галаве Бародкі выступілі і заіскрыліся ад чэрвеньскага сонца вялізныя кроплі поту. Ад наваксаваных да глянцу чаравікаў Бародкі станавілася млосна.

Толік Ягада пахіліўся над задачкамі, але выканаць іх ён не змог. Вострая Бародка хіба цалкам заснуў, бо час ад часу праз залу праходзіў ні то свіст, ні то хрыпенне. Адзін раз Бародка захроп так моцна, што сам ачнуўся з дрымоты...

— Ну, невукі, — ён падняўся з-за стала, дастаў з кішэні камізэлькі, зрабіўшы пры гэтым вялікую цырымонію, цыбульны гадзіннік і важна паглядзеў на цыферблат. — Чакаю яшчэ пяць хвілін, хоць яны вам і так не дапамогуць! Ухмухм-ухм.

Затым Вострая Бародка павёў зрокам па ўсіх вучнях і стаў назад садзіцца ў крэсла. А Толіку не сядзелася. Ён, зрабіўшы выгляд нібы моцна натужваецца над школьнай працай, сунуў руку пад парту — у сваю торбу. Дастаў адтуль невялічкі звітак паперы. Толік Ягада ведаў, што ў новай гарадской школе яго рагатка, з якою ён гойсаў па вёсцы, не мае ніякага шанцу. Мала гэтага — катастрофа прыйшла яшчэ раней. Ужо цётка Клаўдзія, якая ўзяла хлопца на выхаванне, першага дня перагледзела дакладна ўсе яго рэчы.

— Анатолю-Анатолю! — У цёткі Клаўдзіі, якая была вялікай дамай, перaняло дыханне. — А што гэта за дзікунства?!

Яна з агідай, нібы якую гадзюку, трымала Толікаву рагатку.

— Каб мне гэта; Анатолюшу, было апошні раз. Гэта твая варварская прылада прападае.

Але Толік адшукаў яе ў цётчынай каморцы і на ўсякі выпадак адрэзаў сабе доўгі і вузкі пасак гумачкі. Цяпер ён завязаў ейныя канцы за ўказальны і мезены пальцы, а паперку паклаў у рот і стаў жаваць. Сябар па парце — Адрыян (Толік зваў яго Андрусем), дастаў з рота жвачку трохдзённай даўнасці.

— На, лепш прыстане.

Яны ўфармавалі спраўную гульку. Іншыя вучні таксама знюхалі нечаканасць, бо сталі цікаўна азірацца. А Вострая Бародка пасвістваў толькі... Толік зарадзіў гульку і стаў прыцэльвацца, але з таго месца, у якім сядзеў, добра не бачыў. Толік асмеліўся і ўзлез на крэсла — усе ўжо яго добра бачылі, але не Вострая Бародка, які спаў. Увесь клас перапыніў дыханне на момант, у якім раздаўся выстрэл. Ён зышоўся са званком на перапынак. Гулька расплюхнулася на мокрым ад поту лобе Вострай Бародкі. Той, ад перапуду, замоцна перахіліўся на крэсле і з грукатам паваліўся за стол. Падняўся крык і мітусня, як вучні падарваліся з месц і сталі выбягаць з залы. Над сталом бліснулі толькі да глянцу наваксаваныя чаравікі Вострай Бародкі.

**Марцін Пшычка**

# Крыжаванка № 23

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў рэдакцыю на працягу трох тыдняў.

**Адказ на крыжаванку н-р 18:** хата, каравай, талон, насок, пан, Кана, эра, статак, раса, салон, вока, хан, май, шар, карона.

Узнагароды — сегрэгатары — выйгралі: **Пятрусь Івашюк** — ПШ у Кленіках, **Дарота Харкевіч** — ПШ у Дубінах, **Паўліна Попік** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Ігар Дзікевіч** — ПШ у Махнатым, **Сільвія Ракіцкая** — ПШ у Нарве і **Анна Раманюк** — ПШ у Новым Корніне. **Віншуем!**

*Крыжаванку апрацавала* ***Кася Ламашкевіч*** *з ПШ у Нараўцы.*

Імя Коласа

Першы месяц года

Мае вусы і любіць мышэй

Носіць чырвоны грэбень

На апошняй старонцы „Нівы"

Адам — першы... на зямлі

Імя хлопца, падобнае да салаўя

Можа быць залатая ў акварыуме

Напр. курасляпка або пралеска

Колер ружы або цюльпана

Яе вельмі кахаюць дзеці

Малы конік у Белавежскім парку

# Конкурс! Конкурс! Конкурс!

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. Хто напісаў верш пад загалоўкам **„Люблю наш край"**?
2. Якога беларускага князя называем **Чарадзеем**? Калі ён жыў і дзе панаваў?
3. Назавіце два творы **Сакрата Яновіча**.

# Песня пра зубра

Эпоха Рэнесансу ў Беларусі, таксама як у большасці краін Еўропы, выдала выдатных гуманістаў. Побач Францішка Скарыны, вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры ўнёс беларускі пісьменнік Мікола Гусоўскі, які жыў у 1480-1533 гадах. Гусоўскі быў аўтарам славутай паэмы „Песня пра зубра". Твор гэты быў напісаны на лацінскай мове, а яго загаловак у арыгінале гучаў: „Carmen de Bisontis". Хаця ў эпоху Адраджэння еўрапейскія пісьменнікі ўжо пачыналі карыстацца нацыянальнымі мовамі, лацінская надалей аставалася мовай элітаў, канцылярыі і каталіцкага Касцёла. „Песня пра зубра" была напісана пад уплывам уражанняў Міколы Гусоўскага ад ягонай пабыўкі на поўдні Еўропы, дзе назіраў ён змаганне быкоў. Зубр, галоўны герой паэмы, з'яўляецца там сімвалам Вялікага княства Літоўскага і беларускага народа. У ніводнай суседняй краіне не было такой звярыны як зубр. Паводле Гусоўскага, увасабляў ён характар беларусаў і магутнасць Вялікага княства. Паэма расказвае пра дзяржаву, вялікіх князёў і звычайных жыхароў Беларусі.

У 1980 годзе міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА ўключыла аўтара „Песні пра зубра" ў спісак самых выдатных еўрапейскіх пісьменнікаў і мысліцеляў.

Мікола Гайдук

# Аб нашым мінулым

### 7. За панавання Усяслава Чарадзея

Полацкае княства мацнела і багацела таксама, калі пасля смерці ў **1044** годзе князя Брачыслава стаў княжыць яго сын Усяслаў. Доўгі час палачане жылі ў згодзе з рускімі князямі. Нават дапамагалі ім у барацьбе супраць качэўнікаў, якія ад стэпу пагражалі іхнім уладанням. Аднак рускім князям вельмі не падабалася ўзрастанне ў сілу і ўмацоўванне незалежнасці полацкай дзяржавы. Яны з усіх бакоў заціскалі моцнымі крэпасцямі, каб паняволіць яе. Палачане, адчуваючы небяспеку, намагаліся аслабіць акружэнне. Іхнія дружыны на чале з князем Усяславам ударылі на суседні Пскоў. Горада не здабылі, але нарабілі шкоды навокал яго. Затым атакавалі Ноўгарад, захапілі яго, абрабавалі, часткова спалілі, набралі шмат палонных. Рускія князі палічылі, што настаў час расправы з Полацкім княствам.

Летапісец паведамляе: *У год 1067. Яраславічы (сыны князя кіеўскага Яраслава) трое — Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, — сабраўшы вояў, рушылі на Усяслава, калі была вялікая зіма, і прыйшлі да Менска. Ды меняне зачыніліся ў горадзе, і браты тыя ўзялі Менск, пасяклі мужчын, а жанчын і дзяцей захапілі як здабычу і пайшлі да Нямігі. Усяслаў таксама рушыў насупраць. І, сустрэўшыся на Нямізе 3 сакавіка, пайшлі яны адны супраць адных. А быў снег вялікі, і адбылася бітва крывавая, і загінулі многія. І перамаглі Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, а Усяслаў уцёк.*

Менск — гэта сённяшні Мінск.

Рускія князі страцілі вельмі многа ваяўнікоў, а палачане, хаця і адступілі, але не былі пераможны. Тады рускія князі пайшлі на ашуканства: запрасілі Усяслава з сынамі на мірныя перамовы і пакляліся, што не пакрыўдзяць іх. Аднак, калі тыя прыбылі, схапілі іх, закавалі ў ланцугі, завезлі ў Кіеў і ўкінулі ў вязніцу. Вераломства і жорсткасць рускіх князёў выклікалі абурэнне ў жыхароў Кіева. Князь Усяслаў быў паўсюдна вядомы сваёй дабрынёй і вайсковым майстэрствам.

Здарылася так, што на Кіеўшчыну ў 1068 г. напалі качэўнікі, разграмілі няўмела пакіраваныя кіеўскія дружыны і сталі набліжацца да сталіцы. Кіяўляне прагналі свайго князя-няўмеку, вызвалілі з вязніцы Усяслава з сынамі і паставілі яго на чале абароны горада. Пад яго кіраўніцтвам кіяўляне абараніліся ад непрыяцеля, але Усяслаў не захацеў імі княжыць і разам з сынамі патаемна ўцёк у роды Полацк.

Праз нейкі час рускія князі захапілі Полацк, а Усяслаў з сям'ёй і дружынай схаваўся ў суседзяў. Там наняў ваяўнікоў і спрабаваў вызваліць свой край, але папярпеў паражэнне і трапіў у няволю. З палону яму ўдалося вызваліцца, і ён зноў сабраў войска і ўсё ж здабыў Полацк.

Пасля гэтага рускія князі яшчэ некалькі разоў нападалі на Полаччыну і яе сталіцу. Але Усяслаў не толькі патрапіў абараніць Полацкае княства. Ён адпомсціў ворагам, і яны вымушаны былі спыніць напады на Полаччыну і прызнаць яе поўную незалежнасць.

За незвычайныя подзвігі і настойлівасць у абароне айчыны князя Усяслава палачане празвалі **Чарадзеем**.

Пры панаванні Усяслава Чарадзея ў Полацкім княстве, перамагаючы разбуральныя войны, усё ж ішло развіццё гаспадаркі і культуры. Умацоўвалася хрысціянская вера, у Полацку быў узведзены велічны **сабор святой Сафіі — Прамудрасці Божай**, а ў іншых мясцовасцях новыя цэрквы. Князь збудаваў у сталіцы новы магутны замак, а горад умацаваў непрыступнымі абарончымі сценамі. Сам князь быў чалавекам адукаваным і клапаціўся, каб княству прыбывала вучоных людзей. У княстве развіваліся розныя рамёствы і гандаль.

Полацкае княства пры Усяславе Чарадзеі належала да шырокавядомых у тагачаснай Еўропе дзяржаваў.

**Практыкаванні**

*1. Каму не падабалася ўзмацненне Полацкага княства і што яны ўчынялі?*

*2. Як князь Усяслаў спрабаваў аслабіць варожае акружэнне Полацкага княства?*

*3. Што адбылося ў 1067 годзе?*

*4. Якім чынам рускія князі ўзялі ў палон князя Усяслава з сынамі?*

*5. Як аднесліся жыхары Кіева да ўчынку рускіх князёў? Што сталася ў 1068 годзе?*

*6. Ці рускія князі зракліся спробаў зняволіць Полаччыну і як паводзіў сябе князь Усяслаў?*

*7. Чаму палачане назвалі князя Усяслава Чарадзеем?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку**

У 1044 годзе памёр князь ..., і ў Полацкім княстве пачаў княжыць яго сын ... . Палачане ў 1067 г. ... перад пераважаючай сілай войскаў ... князёў, але не былі ... . Князь ... не захацеў княжыць у ... і разам з сынамі ўцёк у родны ... . Хаця ... князі здабылі і разрабавалі ..., але не здолелі скарыць ... і іхняга князя ... . За княжання ... былі пабудаваны ў Полацку ..., ..., ... .

# Цэнтральны агляд беларускай песні

для школьнікаў працягваўся амаль чатыры гадзіны. На сцэне выступіла больш за сотню дзяўчат і хлопцаў, але гэтых першых было намнога больш. Наймалодшыя ўдзельніцы гэта дзве пяцігадовыя дзяўчынкі з „Лісічак" (школа ў Ласінцы) і Янка Шэмет, які не менш таленавіты за свайго бацьку Генадзя (калісь лідэра калектыву „Грамада"). Найстарэйшыя дзяўчаты гэта васьмікласніцы з кленіцкай „Вясёлкі", якія вельмі добра прэзентаваліся на сцэне, былі акуратна апранутыя і цудоўна заспявалі песню „Слуцкія ткачыхі". Канцэрт вялі старэйшыя сяброўкі, вучаніцы бельскага ліцэя Дарота Кулачэўская і Агнешка Нічыпарук.

Хаця быў гэта будні дзень, прыйшло крыху публікі, перад усім былі гэта вучні бельскай „тройкі", але былі таксама бабулі, цёці, мамы і таты некаторых удзельнікаў, якія заклікалі гледачоў, каб пляскаць іхнім любімцам.

Мяне прыемна ўразіла тое, што настаўнікі і апекуны выканаўцаў прывучаюць дзяцей іграць на інструментах і з кожным годам больш аднагодкаў акампануе сваім сябрам.

Кожны, хто быў на аглядзе, пераканаўся ў папулярнасці бельскай „Журавінкі". Песні з іх касеты вельмі часта гучалі са сцэны. Я пачула таксама шмат новых цікавых дзіцячых песень. Дзеці перасталі спяваць пра каханне і толькі адна дзяўчына з Нарвы спявала пра „мінулае дзяцінства".

Самае цікавае паказалі вучні з Нараўкі, якія не толькі прыгожа спявалі, але і танцавалі. Няхай тыя, што не былі шкадуюць і прыязджаюць у наступным годзе.

**Аліна Ваўранюк**

*Фота аўтара*



*„Вясёлка" з Кленік.*



Талон „Зоркі" № 23
9.06.1996

# Новыя вершы

Барыс Руско

**Вясною**

У дзяўчыне толькі вясны,
колькі ў сонечны дзень матылёў.
У мёдзе губ
купаецца крыло
заблуднай пчолкі.
Воблака нясе сон півоніі,
што расцвіла ў белай далоні.
А слёзы смешныя,
калі чакае калясніца.

**Без парываў**

Доўгі сон да канца спапяліўся.
Іду без парываў
кладкай вясны
на другі бераг дня.
А вярба,
як заўсёды
ў гэту пару,
нясе коцікі хрысціць.
Вячэрні цень моліцца
па маршчыне вады.

**Колер вясны**

Шкарлупіна ў спазмах,
яшчэ ў чакальні
спацелае птушаня —
слабыя крылы,
каб перапырхнуць
цераз парог.
На беразе лужы
тузін вачэй,
а сонца спрытнае —
глыбока ў цень.
На ранцы два сэрцы
стралою прабітыя,
і лопаюць бутоны.
Так выпаўзае
з усіх шчылін
колер вясны.

**З надзеі пушчы**

На гнуткіх брушках
не шастае зелень,
і ўсё у віры непарушным,
бо раніцу ў пушчы
вышукала сонца.
Вось гэта гармонія
расцяжная,
як бляск надзеі
бесперастанны:
уцячы паспею
ў цень незавялы.
Тут усе ласкаўцы,
кожны чакае,
калі прачнецца ўрэшце
лунацік.
Матыль, пазбыўшыся
снатворных кропляў,
увесь час гарцуе.
Відаць, успомніў
той дзень шчаслівы,
калі радзіўся
наш белы свет.

**Пра пушчу інакш**

Даткнуўся да дрэва,
а яно маўчыць,
толькі пушча
лісцём гамоніць.
Да маіх далоняў
прытуліўся мох,
а дрэва плячыма
адвярнулася,
з кары сцякае
мокрадзь вачэй.
Я праклінаю,
і чую водзыў
у каранях мёртвых,
быццам ссечаны дрэвы
былі на абедні.

Людміла Піскун

**Санет**

Па вобліку пазнала ў Вас паэта,
Праз таямнічасць думак і духоўнасць разгадала.
Мне вельмі да душы знаходка гэта,
Якую ў сне раней зязюля накувала.
То сонца промнем прабівае тучы,
То чайкі крыкам абуджаюць хвалі.
Здаецца мне — імя тваё назвалі
То стогне ціха-ціха лес дрымучы.
І мроіцца, што гэтае імгненне
На цэлае стагоддзе дорыць мне натхненне
На песні, вершы, спадзяванні, адкрыццё...
Так сонца промні кідае палянам,
Так сад паэзіі прыходзіць у быццё,
Рамонкі ўсміхаюцца зямлянам.

**Мелодыі сучаснага жыцця**

А можа мы таму сябе ірвем па мітусні,
Што бюракрат да дробязі псуе нам лёс і дні?
А можа ў год Пацука ўсім на Пегаса ўскочыць?
Бо бюракрат не зменіцца. Пра гэта і не сні.

* * *

Што ў пекла, што ў рай усёроўна — пад абрыў.
Абяцанкі-цацанкі — бюракрата парыў,
Што Чарнобыль яму, нездароўе дзяцей,
Ён жыве, як і жыў... Бюракратства стварыў.

* * *

Ці доўга дарогай няпэўнай брысці?
Знайсці як куточак спакою ў жыцці?
— Не спыняйся ў абранай дарозе,
Дай думкам-задумам хутчэй прарасці.

* * *

Хоць мець бы за столькі ўжо год спадзяванне,
Хоць здзейсніць бы раз у жыцці парыванне,
Крыніцай жывою ўбачыць сэрца Зямлі,
Ды здаровых дзяцей. Ёсць і другія жаданні...

* * *

Мне вядомы людскога даверу падман.
Мне вядомы ўзлётаў паспешны туман.
Іншы раз на вяршыні толькі вецер і снег.
Як і ўсе, хто сумленны, іншы ведаю стан.

* * *

Мне вядомы адзін чалавек небагаты,
Быў калісь ён жытнёвага поля араты.
Робіць людзям дабро, сам працуе заўзята,
Сёння выбралі людзі яго дэпутатам.

* * *

Не сумуй, што багацце цябе не дагнала,
І твой голас, твой міг пратрымаецца мала.
Хай хоць мала. Ды вельмі і вельмі — трывала.
Нарадзіцца ніколі табе не прыпала.

Васіль Сакоўскі

# З гісторыі маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

Атрыманая ў час зямельнай рэформы сялянамі зямля складалася з ворнага грунту, пасавога і сенакосу.

Ворныя грунты нашай вёскі былі падзелены на тры палеткі. Кожны палетак меў сваю назву: Просты, Пад Пасынкі і Пад Гукавічы. А ў іх кожная сям'я атрымала па чатыры палоскі, якія ў нас называліся *часткі*. Яны былі распалажаны ў такой чарзе, у якой жылі сяляне ў вёсцы ў час рэформы. Вясковыя суседзі былі аўтаматычна суседзямі і па частках. Часткі былі доўгія і таксама кожная з іх мела сваю назву, значыць, у час гэтай рэформы кожная сям'я атрымала дванаццаць частак ворнай зямлі. Цікава, што адна частка ў Падгукавіцкім палетку так і называлася *Дванастка*. Відаць, была яна апошняй надзеленай часткай. І нешчаслівай. „Дванасткі" межавалі з пашамі і таму няшчадна травіла іх жывёліна. Выпас быў агульны і дабытак пасвіўся на ім гуртом. Так што карысці з „дванастак" было мала.

Іншай моцна няўдзячнай часткай, хоць з іншага поваду, была адна частка з Простага палетка. Былі такія неўраджайныя гады, бывала, што на ёй дасслоўна ўсё прападала. Па расказах майго пакойнага бацькі, быў калісьці такі неўраджайны год, што ягоная бабка, а мая прабабка з гэтай доўгай участковай часткі ўсё жніво сабрала ў адзін фартух. Вярнулася з гэтым ураджаем прыбітая горам дадому і памерла ад жалю.

Хаця зямлёй у той час вельмі даражылі і баяліся праклёнаў, мой дзед Амяльян не раз выказваў такое пажаданне, каб гэта частка лепей возерам стала.

Не любіў гэтых дзвюх частак і мой бацька Віктар. І не шкадаваў у іх адрас адпускаць яшчэ мацнейшыя, ад дзедавых, пажаданні.

Я сваіх гаспадарскіх поглядаў наконт вартасці палеткаў, частак, урочышчаў не ўспеў набыць, бо ў часы цераспалосіцы „мелка плаваў" яшчэ. А на час майго дарастання звалілася на нас, як гром з яснага неба, народная ўлада з хуткімі зменамі ва ўсіх галінах нашага жыцця і яшчэ большымі зменамі на палетках нашых. Праводзілася „меліярацыя", „дрынацыя", „камасацыя", „калектывізацыя", „кантрактацыя" і ўсякая *прочая* „-ацыя"...

І хоць не так даўно ліквідаваны ў нас гэты, бадай, найбольшы рэлікт старыны — дзедаўская і прадзедаўская цераспалосіца, але сантымент да яе астаўся вялікі. Колькі ж з таго часу захавалася ў маёй памяці назваў розных частак і ўрочышчаў. Адны з іх простыя, зразумелыя, як напрыклад Крайніца, Осіна, Доліна, Рышток, Дворыско, Ніз, Поплаў, Вэліке болото, іншыя незразумелыя, напрыклад, Шолутька, Гіета...

Найбольш дакучлівымі маім і нашым продкам былі неўраджайныя гады, а здараліся яны даволі часта. Найбольш неўраджайныя тады год — гэта, як правіла, сыры год. Была нават паговорка такая, што суш у нас не аставіць без хлеба, а моч — аставіць. У час неўраджайных гадоў многія нашы сем'і галадалі. А голад — гэта чортаў брат — часта паўтаралі. У час голаду нашы людзі ездзілі за прадуктамі аж у Пінск, куды гэтыя прадукты дастаўляліся водным шляхам.

Старэйшыя людзі аўтарытэтна сцвярджалі, што калісьці клімат быў у нас цяплейшы і сырэйшы. Пачаў ён змяняцца — паводле тых жа інфарматараў — пасля пракапання Суэцкага канала...

*(працяг будзе)*

# Конкурс „Сцэнічнае слова"

Слухаючы 17 сакавіка беларускую радыёперадачу, я даведалася, што 21 сакавіка ў будынку Бельскага беларускага ліцэя адбудзецца цэнтральны конкурс „Сцэнічнае слова".

Я рашыла паехаць і прыняць удзел. Ведала, што дарослых і студэнтаў напэўна не будзе. Я ўжо год таму хацела прыступіць да гэтага конкурсу, аднак мне гэта не ўдалося з-за сямейных турбот.

У сакратарыяце сядзела Тамара Русачык — член камісіі. Пачуўшы, што я хачу ўдзельнічаць у конкурсе, згадзілася мяне прыняць. Папрасіла толькі, каб на наступны раз я напісала заяўку ў ГП БГКТ.

Праз нейкі час прыйшоў Янка Целушэцкі, за ім прыехала траіх мужчын з тэлебачання, прыйшоў другі член камісіі сп. Аляксандр Іванюк, пасля яго з'явілася яшчэ адна член камісіі з Бельскага дома культуры і на канец прыехалі вучні Гайнаўскага беларускага ліцэя з настаўнікам Яўгенам Вапам.

Усіх удзельнікаў было каля трыццаці. Усе былі вельмі добра падрыхтаваны і я падумала, што камісія будзе мець клопат з вылучэннем найлепшых дэкламатараў.

Конкурс адбыўся ў кабінеце беларускай мовы. Я дэкламавала творы Міры Лукшы: верш „Сею-сею" і апавяданне „Дзетачка мая". Апавяданне я прадэкламавала згодна з аўтарскім тэкстам. Адна вучаніца таксама дэкламавала гэта апавяданне, толькі скарочанае і крыху змяніла тэкст.

Цудоўна выступалі дзяўчаты ў сцэнцы „Двое" — паводзілі сябе як сапраўдныя актрысы.

Адзін вучань так моцна перажываў сваё выступленне, што з-за хваляваня забыўся тэксту. Што ж, такое здараецца таксама на экзамене.

Калі камісія пайшла падводзіць вынікі, удзельнікаў пачаставалі пончыкамі і газіраванымі напіткамі. Праз нейкі час запрасілі на абед — вельмі смачны.

На камісію чакалі доўга; паявілася недзе каля трэцяй гадзіны.

Узровень конкурсу быў высокі, калі былі прысуджаны тры першыя месцы, тры другія і два трэція. Мне ўдалося заняць трэцяе месца, раздзяліла я яго з адной вучаніцай.

Дырэкцыя ліцэя вельмі сардэчна прыняла ўдзельнікаў конкурсу. У школе прыемна і чыста, моладзь — дысцыплінаваная.

Шкада толькі, што ўдзельнікамі былі вучні адно двух ліцэяў. Добра было б, каб зацікавіліся ім і дарослыя. Усё ж такі вельмі прыемна дэкламаваць творы беларускіх пісьменнікаў.

Аўрора

**3 мая 1996 года Галоўнакамандуючы Узброеных Сіл Рэчы Паспалітай, прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі прысвоіў званне генерала брыгады архіепіскапу Саве (Міхаілу Грыцуняку), праваслаўнаму ардынарыю Войска Польскага.**

# Капелан улівае ў сэрцы надзею

**Гутарка з АРХІЕПІСКАПАМ САВАМ, ардынарыем Беластоцка-Гданьскай праваслаўнай епархіі.**

***— Прысваенне Вам, Уладыка, як праваслаўнаму вайсковаму ардынарыю звання генерала брыгады з'яўляецца вялікім гонарам для праваслаўнага насельніцтва нашай краіны, якое ўжо з нецярплівасцю чакала гэтай падзеі. Ці абазначае гэта, што праваслаўнае вайсковае душпастырства ў сваёй дзейнасці стала раўнапраўным партнёрам каталіцкага?***

— Я разглядаю павышэнне мяне ў званні не столькі як асабістую справу, колькі як факт прызнання цывільнымі і вайсковымі ўладамі Рэчы Паспалітай Польскай рангу праваслаўнага вайсковага душпастырства. Гэта пацвярджэнне таго, што выконвае яно поўнапартнёрскую ролю ў выхаваўчым і маральным уздзеянні на праваслаўных жаўнераў у Войску Польскім. Такім жа чынам успрымаюць гэту падзею вернікі нашай Царквы: як знак таго, што наш Праваслаўны вайсковы ардынарыят гэта сапраўды раўнапраўны партнёр Рымска-каталіцкага вайсковага душпастырства.

***— Як успрымаюць праваслаўныя жаўнеры прысутнасць у войску свайго, праваслаўнага капелана? Ці адчуваюць яны там сябе больш упэўнена, бяспечна? Ці лягчэй ім у хвіліны цяжкіх выпрабаванняў?***

— Трэба падкрэсліць, што праваслаўныя жаўнеры добра ўспрымаюць прысутнасць капеланаў праваслаўнага веравызнання ў вайсковых часцях. Неабходна памятаць аб тым, што вайсковая служба бывае няраз цяжкім выпрабаваннем для маладога чалавека, вырванага з яго асяроддзя і накіраванага часта ў аддаленыя ад дому і сям'і мясцовасці. Дзякуючы прысутнасці капеланаў гэтым хлопцам лягчэй прыстасавацца да новых умоў, ды і лягчэй перажываюць яны цяжкія хвіліны. Капелан часта ўлівае ў іх сэрцы надзею, што ўсё яны перамогуць, дае ім пачуццё спакою і бяспечнасці ў найбольш небяспечныя моманты. Неабходна памятаць таксама і аб тым, што дзякуючы прысутнасці капеланаў у войску нашы жаўнеры маюць магчымасць наладзіць бліжэйшую сувязь з царквою. І гэта, бадай, тое найбольш каштоўнае, што вайсковы капелан можа даць сваім жаўнерам.

***— Колькі праваслаўных вайскоўцаў знаходзіцца ў даны момант у службе Айчыне?***

— Сёння ў Войску Польскім служыць — разам з прафесіянальнымі вайскоўцамі — 15 тысяч чалавек праваслаўнага веравызнання, улічваючы таксама сем'і, моладзь, якая вучыцца ў школах, пенсіянераў і ветэранаў.

***— Колькі на сённяшні дзень праваслаўных капеланаў у войску і як яны выконваюць свае паслугі?***

— У даны момант у Войску Польскім працуе 16 капеланаў. Выконваюць яны душпастырскую службу ў шасці праваслаўных дэканатах (чатыры вайсковыя акругі, а таксама ваенна-марскі флот і авіяцыя), ды ў трох вайсковых прыходах: у Варшаве, Гданьску і Беластоку. Тры вайсковыя прыходы — у Вроцлаве, Цехацінку і Пярэмышлі — знаходзяцца ў стадыі арганізацыі. Апрача таго, нашы капеланы працуюць у пагранічнай ахове, надвіслянскіх вайсковых часцях, пажарнай ахове і ў вайсковым школьніцтве. Усе яны вядуць багаслужбу для жаўнераў, выконваюць для іх усе неабходныя рэлігійныя паслугі, як, напрыклад, шлюбы і хрышчэнне дзяцей, праводзяць таксама лекцыі для жаўнераў, удзельнічаюць у выхаваўчай працы ў войску, навучаюць дзяцей вайскоўцаў рэлігіі, але перш за ўсё, як я ўжо адзначыў, служаць сваёй дапамогай кожнаму жаўнеру, у кожнай цяжкой сітуацыі.



***— Ці пры кіраванні рэкрутаў у вайсковыя часці бярэцца пад увагу праваслаўнае паходжанне? Ці можа рэкрут дамагацца, каб накіравалі яго служыць туды, дзе ёсць царква?***

— Вайсковыя камісіі не цікавяцца веравызнаннем рэкрута. Аднак жа, калі малады праваслаўны чалавек, якога бяруць у войска, выкажа жаданне праходзіць службу ў мясцовасці, дзе знаходзіцца царква, яго просьба бярэцца пад увагу. Найважнейшае, каб нашы хлопцы прызнаваліся да сваёй царквы.

***— Хто спявае ў хоры, створаным Вамі, Уладыка, у 1994 годзе пры Палявым ардынарыяце?***

— У хоры Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага спяваюць перш за ўсё капеланы і псаломшчыкі нашага ардынарыята. Аднак не толькі. Спяваюць у ім таксама псаломшчыкі беластоцкіх прыходаў і члены іншых царкоўных хораў. Варта падкрэсліць, што хор мае экуменічны характар: побач з праваслаўнымі спяваюць тут рымскія каталікі і пратэстанты. Сваім спевам хор асвятляе рэлігійныя ўрачыстасці, якія арганізуюцца нашым ардынарыятам.

***— „Ніва" сардэчна віншуе Вас са званнем генерала і дзякуе за размову.***

Гутарыла Ада Чачуга

# Новая кніжка пра Лёніка Тарасэвіча

24 мая г.г. у беластоцкай галерэі „Арсенал" адбылася прамоцыя новай кніжкі пра Лёніка Тарасэвіча. На сустрэчу з Мастаком і аўтарамі кніжкі прыйшло многа паклоннікаў сучаснага мастацтва, сябры і знаёмыя, журналісты. Моніка Шэўчык, гаспадыня галерэі, адзначыла важнасць прысутасці Тарасэвіча ў „Арсенале".

— Кожная культурная ўстанова свой прэстыж абапірае на прысутнасці вялікіх прозвішч, — гаварыла Магдалена Гадлеўская-Сіверская, куратар мінулагодняй выстаўкі мастака ў „Арсенале" і заадно рэдактар новага каталога.

У кніжцы цікавы змест: фатаграфіі карцін з мінулагодняга вернісажу ў „Арсенале" аўтарства Віктара Волкава, эсэ Сакрата Яновіча, інтэрв'ю Анджэя Кісялеўскага, нарысы Лукаша Гарчыцы і Габрыелі Кардаца, пералік выставак і бібліяграфія. Тэксты ў кніжцы — на польскай і англійскай мовах.

Кніжка-каталог прыемна ўражвае эстэтычнасцю і выдавецкай стараннасцю. Несумненна з'яўляецца яна вялікай культурнай падзеяй.

Тыя, што прыйшлі на згаданае мерапрыемства, маглі пабачыць таксама фільм „Ścieżki duchowe".

Ганна Кандрацюк
*Фота аўтара*



*Лёнік Тарасэвіч і Магдалена Гадлеўская–Сіверская.*

# Прыгожа і фальшыва

Днямі выйшаў з друку даведнік „Бельск-Падляшскі". Уяўляе ён сабою невялікую каляровую кніжачку ў дваццаць восем старонак, з гладкай, блішчучай вокладкай. Найбольш месца займаюць у ім — што ў наш час само сабой разумеецца — рэкламы бельскіх прадпрыемстваў, гандлёва-паслуговых фірм і банкаў. Багата таксама здымкаў архітэктурных і гістарычных помнікаў, жылых мікраранаў, мастацкіх калектываў.

„Веру, што гасціннасць жыхароў і прыгажосць Бельска-Падляшскага заахвоцяць Вас да наступнага прыезду", — звяртаецца да патэнцыяльных наведвальнікаў ва ўводным слове бурмістр Андрэй Сцепанюк. Для гэтых гасцей, відаць, прыводзяцца адрасы з тэлефонамі ўлад горада, школ, прадшколляў, падаецца інфармацыя пра карэнных жыхароў, іх заняткі, беспрацоўе сярод насельніцтва. Ёсць таксама адрасы гасцініц, рэстаранаў, сталовых, бензастанцый і спрошчаны план горада.

Кожны гаспадар любіць пахваліцца. У даведніку таксама падкрэсліваецца, у якім чароўным месцы распалажаны Бельск-Падляшскі, як там дбаюць аб асяроддзі, якой багатай гісторыяй і захаванымі помнікамі могуць ганарыцца. Чытаючы гістарычную даведку, падарожнік атрымлівае інфармацыю, што: „historia powstania grodu sięga czasów kształtowania się państwa polskiego" ды, што: „stanowił on ważny, północno-wschodni punkt strategiczny państwa polskiego" (sic!).

Спрашчэнні, у тым і гістарычныя, у такім выданні непазбежныя. Але паміж спрашчэннем і фальшыўкай ёсць даволі істотная розніца.

М. В.

# У Чыжоўскай гміне...

*(працяг са стар. 3)*

та будова водаправода ў вёсках Лушчы, Вулька, Вежанка і Падвежанка. Яе кошт перавысіць 1 мільярд зл. Прадбачваецца, што 30 прац. інвестыцый складзе грамадская праца людзей.

Чацвёртая інвестыцыя на бягучы год гэта мадэрнізацыя дарогі Кленікі — хутар Слівова, даўжынёю 2,6 км. 10 прац. інвестыцыі мае скласці грамадскі ўклад у фінансавых сродках, матэрыялах ці працы.

На скромны гмінны бюджэт гэта нямала, сцвярджае войт Рыгор Мацкевіч. Дзякуй Богу, што ўтрымалі школы. Прызналі нашы пратэсты слушнымі і да 5,5 мільярда на асвету дадалі яшчэ амаль 3 мільярды (з увагі на „błędy planistyczne" ды па нацыянальных меншасцях). Войт умее лічыць і гаспадарыць: у Павятовай радзе ў Гайнаўцы працаваў ад 1960 да 1975 года.

### Культура

Разам з дырэктарам ад культуры Казімежам Дэркоўскім мы збіраліся ў Чыжоўскую гміну ўжо ад зімы. Гэта ён менавіта прыдумаў рэйтынг у культуры, і гміна Чыжы адразу пастанавіла прыняць у ім удзел. Трэба ж было і яму паглядзець, што тут у гміне дзеецца. Калі сустрэла я „Чыжавянак" у Беластоку ў лютым на Фестывалі беларускай песні, то запытала ў Вольгі Ахрымюк, ці, калі прыедзем у пост, то нам заспяваюць. Я ведала, што нашы спявачкі ні за што ў посце спяваць не будуць, але запыталася на ўсякі выпадак... Вольга на хвіліну завагалася, а пасля кажа: „Ну, хіба што нашы, старадаўнія песні... Гэтыя можам заспяваць, чаму не!" Аказваецца, у Чыжах спецыяльны статус для сваёй, роднай песні! Разам з ёю праходзіла іх жыццё, з ёю тут цешыліся і гаравалі, з ёю віталі нованароджанага і праводзілі чалавека ў апошнюю дарогу.

У Чыжах людзі моцна трымаюцца свайго. На Каляды 10 гадоў будзе, як заснавалі мастацкі калектыў „Чыжавяне". Праўда, адразу было ў ім 14 членаў, а цяпер засталіся толькі тры пары мужоў і жонак, але калектыў надта дзейсны і выступае ўсюды, куды толькі яго запрашаюць. У Нарве, на аглядзе абрадных калектываў, дапамагаў яшчэ доктар ветэрынарыі Яўген Кавальчук з жонкай. Штогод калектыў прымае ўдзел у конкурсах беларускай песні ў Беластоку, ды і на месцы часта арганізоўваюцца цікавыя мерапрыемствы: беларускія фэстыны, асенния спатканні з фальклорам ды іншыя. Калектыў „Чыжавяне" ў гміне не адзіны. У Курашаве пад кіраўніцтвам Ніны Грыгарук працуюць „Незабудкі", а ў Збучы — жаночы калектыў пад кіраўніцтвам Кацярыны Ціханюк. Пры школах у Чыжах, Кленіках і Курашаве існуюць дзіцячыя калектывы.

У Чыжоўскай гміне справы культуры выглядаюць някепска. Ёсць тут Гмінны асяродак культуры ў Чыжах, вясковыя клубы ў вёсках Мора, Збуч, Чыжы, Шастакова, Койлы, Курашава, Камень і Кленікі. У Моры ёсць яшчэ прыватны клуб „Рэлякс". У Чыжах знаходзіцца таксама Гмінная публічная бібліятэка, а ў Кленіках — яе філіял. ГОК у Чыжах выдае „Gazetę Czyżowską", якая выходзіць раз у месяц тыражом у 60 экземпляраў. Калі глядзіш на ўсё гэта, ствараецца такое ўражанне, што, хаця сялянскіх дзетак цягне ў горад, у Чыжоўскай гміне можна жыць.

Калектывам „Чыжавяне" кіруе Яўгенія Якімюк. Шкада, што сёння няма яе — паехалі з мужам у Курашава на пахаванне швагра. У чыжоўскім ГОКу сустрэлі нас дзве ўдзельніцы калектыву — Вольга Ахрымюк і Марыя Якімюк, а таксама Юрка Сіманюк, намеснік дырэктара ГОКу. Зайшлі дырэктары школ у гміне, якія праводзілі сёння рабочую сустрэчу на тэму спорту. Устаў з ложка і хворы дырэктар ГОКу Юрка Якімюк, а пасля далучыўся войт Рыгор Мацкевіч, які толькі ўчора пахаваў бацьку. Сёння спявачкі нам не заспяваюць — людзі тут уражлівыя на людское гора. Затое шмат расказваюць пра мясцовыя звычаі, абрады. У нас калісь, калі ўжо малады прывёз жонку дахаты, расказвае Вольга Ахрымюк, дык усе сталі пад вокнамі, а маладая выкладала на стол свой пасаг. І дванаццаць, і трынаццаць вышываных абрусоў бывала...

Галена Марцінкевіч з ваяводскага аддзела культуры кажа: „Гэта найкаштоўнейшае, што вы маеце — творы ўласнай працы, народная творчасць!" „А ў „Ніве" нядаўна напісалі, што фальклор зусім непатрэбны!" — кідае ў мой бок Марыя Якімюк. Тлумачу, што „Ніва" — трыбуна розных поглядаў.

Музычным інструктарам чыжоўскіх калектываў з'яўляецца Міхась Аўхіменя, выкладчык музыкі Гродзенскага універсітэта. Штотыдзень прыязджае ў Чыжы, тады зазвычай „стаіць" у Вольгі Ахрымюк. Ну такі ўжо гэта чалавек, кажа яна, ён мне пагладзіць усю бялізну! А калі едзе ён з дзецьмі на конкурс, дадае дырэктар школы Сяргей Насковіч, то апякуецца імі, быццам бы быў іх настаўнікам, як бацька.

Можна было б гаварыць з гэтымі цікавымі жанчынамі да раніцы — няма нічога ў іх з „вясковасці". І ў Марыі, і ў Вольгі дочкі ў горадзе, у хаце асталіся толькі наймалодшыя сыны. Адна дачка Марыі — гэта Галінка Іванюк, што вучыць у беларускім прадшколлі ў Беластоку (колішняя салістка „Дубіноў").

Людзям тут нядрэнна. А ўсё ж цешацца яны, што дзеці іх будуць жыць лягчэй і цікавей. А мы ім паможам, кажуць. Вось і ў Збучы, дзе сустракаемся з жаночым калектывам, людзі цешацца, што маюць рэнту, дзяцей павывучвалі, амаль усе яны ў горадзе на добрых пасадах. Дачка кіраўнічкі калектыву Кацярыны Ціханюк выкладае англійскую мову ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Што нам, кажуць яны, абы было здароўе!

Калектыў існуе ўсяго год, а ўжо здабыў славу на ўсё ваяводства. Спяваюць яшчэ Анна Якімюк, Наталля Брук і Аляксандра Куптэль. У вёсцы ўсе людзі старыя, як і гэты калектыў па ўзросту спявачак. Але васьмідзесяцігадовая Анна Раманюк просіць Бога, каб пажыць яшчэ крыху. Добра спявае і някепска адчувае сябе.

У Збучы ўсяго 15 гаспадароў. Толькі 9 дзетак даязджае ў школу ў Чыжах, а маленькіх тут усяго двое. „Ой чы ўсе тые садонькі цвілі..." — спяваюць нам жанчыны на развітанне.

**Ада ЧАЧУГА**

*Фота аўтара*



*Найлепш адчуваюць сябе спявачкі ў чыжоўскім ГОКу! Злева: Вольга Ахрымюк, намеснік дырэктара ГОКу Юрка Сіманюк, Марыя Якімюк.*

# Нясвіжскія ўспаміны

Крыстына Тамашак нарадзілася ў 1923 годзе ў Коніне. Сваю маладосць правяла ў Нясвіжы, куды ў 1930 годзе пераехала з маці за бацькам, які там служыў у войску. Вучылася ў гімназіі імя Уладзіслава Сыракомлі.

— Мы, гімназісткі, часта хадзілі ў нясвіжскі замак, куды нас запрашаў апошні ардынат Радзівіл. Было там многа абразоў у дванаццаці залах, найпрыгажэйшымі з якіх былі Залатая, Мармуровая, Каралеўская і Гетманская. У замкавай капліцы быў цудадзейны абраз Маці Божай, які з пасагам прывезла ў Нясвіж Кацярына Сабеска, сястра караля Яна III. Гэты абраз знаходзіўся ў палявой капліцы падчас венскай бітвы караля. Побач замка быў прыгожы парк, а ў ім дзве вялікія штучныя сажалкі „Замкавая" і „Дзікая". На Вялікдзень хадзілі ў царкву, дзяўчыны ставалі пры прыгожых хлопцах, і калі хрыстосаваліся, то цалаваліся з маладымі. Ардынат найлепшым гімназістам прызнаваў стыпендыі. Школа была многанацыянальная; я ўлюбілася ў беларуса Алёшу. Калі закончыла гімназію, пераехала за бацькам у Плоцк і далейшага лёсу Алёшы не ведаю. Пасля вайны пасялілася ў Ольштыне; тут заявіла сям'ю і дачакала старасці. Старасць невясёлая, і часта згадваецца верш Янкі Купалы:

*Сумна, сумна жыць на свеце*
*Жыць не меўшы долі.*
*Ой, сумней жа долю меці*
*А не меці волі.*
*Аб нядолі тады пеці*
*Ужо не будзем болей*
*І там шчасце будзем меці,*
*Воля будзе доляй.*

* * *

У Нясвіжы вучыўся таксама Вітальд Дабашынскі, народжаны ў 1940 годзе. Школу закончыў у 1958 годзе і ў 1960-м пераехаў у Польшчу і пасяліўся ў Калабжэгу. У 1966 годзе закончыў ён Сельскагаспадарчую акадэмію ў Ольштыне. Пазней быў два гады на стыпендыі ў Францыі. Цяпер з'яўляецца старшынёю сельскагаспадарчага кансорцыума, які развівае гаспадарчыя кантакты з беларускімі фірмамі. У 1992 годзе быў назначаны ўпаўнаважаным ольштынскага ваяводы па справах супрацоўніцтва з Беларуссю. У сувязі з гэтым часта бывае ў горадзе сваёй маладосці. У колішнім замку Радзівілаў цяпер санаторыя, дзе лечаць сардэчна хворых. Замкавыя абразы пасля вайны вывезена; 90 штук з іх апынулася ў Польшчы. Нясвіжскія дзеячы культуры намагаюцца адкрыць у замку галерэю і вярнуць у яе вывезеныя каштоўнасці.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Радзіма — Родзіна

**Частка L**

Прыведзеныя сёння выказванні Янкі Міхалюка адносяцца да 1989 года, калі яшчэ не была абвешчана незалежнасць Беларусі, аднак ужо гарбачоўская перабудова праяўляла сімптомы развалу Савецкага Саюза. Аднак тады яшчэ большасць людзей, асабліва ў Беларусі, верыла ў трываласць Савецкага Саюза.

„Я вам сказаў ужо калісь, што для нас тут, асабліва на пачатку эміграцыі, то найважнейшая была малая Радзіма, а не вялікая. Памятаю, калі мы, беларусы, сустракаліся, то ні аб чым іншым не размаўлялі, толькі аб сваіх вёсках і аб сваіх мястэчках. Зрэшты, напэўна вы заўважылі, што і зараз, сорак гадоў пасля вайны, амаль што кожны эмігрант будзе з вамі размаўляць аб сваёй роднай мясціне. Ну, што там гаварыць, то ж гэтыя родныя мясціны безупынна нам сняцца, бачым іх і ў сне, і на яве. Вы ведаеце, што кожны чалавек час ад часу хварэе. Часта хварэем нават вельмі цяжка. То ведаеце, што калі чалавек моцна хворы і калі як бы заціраецца мяжа паміж сном і рэальнасцю, то тады такому хвораму чалавеку вельмі часта здаецца, што ён у сябе на радзіме, што вакол яго ўсё тое, што было ў роднай хаце. Тады то вакол цябе і парасяткі, і цяляткі, і конь, і карова. Адным словам усё тое, што было ў гэтай малой айчыне. Гэта, што я вам сказаў, то ёсць адно. Але ёсць яшчэ і другое. Вядома, што тут у Беларускім цэнтры вялася і вядзецца, ну як тут сказаць, асветніцкая ці палітычная дзейнасць. Праводзяцца розныя спатканні і даклады. То ўсё гэта наогул было і ёсць прысвечанае не малой радзіме, а толькі вялікай айчыне, яе лёсам і яе нядолі. Калісь то да нас прыязджалі толькі самі эмігранты або, скажам, англічане, якія займаюцца саветамі. А вось у апошніх гадах то ўжо сітуацыя змянілася, пачалі да нас прыязджаць беларусы з Польшчы. І яны нам таксама гавораць аб нашай радзіме. Ну, хоць бы тое, што вы тут нам ужо не раз гаварылі, то яно таксама датычыцца нашае радзімы. І гэта нам патрэбна, бо гэта нам дапамагае. У чым нам дапамагае? Ну, дапамагае ў веры. Пакуль што то да нас не едуць людзі з Беларусі. Улады не пускаюць да нас сваіх грамадзян. А гэта значыць, што нас баяцца. Калі б не баяліся, то пускалі б. Баяцца нас і баяцца сваіх грамадзян. Баяцца і не вераць ім. Калі б не баяліся і верылі ім, то пускалі б іх да нас. А як яно будзе далей? А хто яго ведае. Мне то здаецца, што нельга навекі закрыць, зачыніць людзей за агароджай. Раней ці пазней, але праўда дойдзе да савецкіх людзей. А от, ці гэтыя людзі, пазнаўшы праўду, перамогуць савецкую ману, то гэтага то я не ведаю. Хацелася б, каб так было, але ці будзе, то невядома. То ж мы тут добра ведаем, што не жменька эмігрантаў, але цэлы беларускі народ будзе вырашаць свой лёс. Нас саветы вельмі часта абвінавачваюць, што мы служым імперыялістычным разведкам. Усё гэта лухта. Мы хочам служыць толькі беларушчыне, толькі таму, што вы называеце малой і вялікай радзімай.

Мне здаецца, што вельмі добра сталася, што мы тут збудавалі Скарынінскі цэнтр. Бачыце, ён для нас усіх прыпорышча. Вядома, што большасць з тых, хто даў грошы на цэнтр, і хто прыходзіць сюды, то гэта тыя людзі, якія не чытаюць кніг. Хаця вядома, што многа такіх, хто чытае. Але бачыце, калі нават такі чалавек, які не чытае кніжак, сюды пападзе, калі пабудзе ў гэтай беларускай атмасферы, то гэта ўсё адно, як бы ён атрымаў серыю беларускіх уколаў. Вы ведаеце, што кожны з нас у большай або меншай ступені зангельшчыўся. І дома мы вельмі часта ўжо размаўляем па-ангельску. Але калі мы прыходзім сюды ў Скарынінскі цэнтр, то тут ужо размову па-ангельску, а не па-беларуску, мы трактуем як здраду.

І мушу вам сказаць, што калісьці біскуп Сіповіч, а цяпер айцец Аляксандар Надсан безупынна паўтараюць, што беларусы, незалежна ад сваёй рэлігійнай прыналежнасці і сваіх палітычных поглядаў, могуць і павінны яднацца на нацыянальным грунце. У нас тут няма такіх выпадкаў, што вуніят лепшы чым праваслаўны, католік ці няверуючы. Тут мы ўсе роўныя і ацэньваем тут людзей толькі на той падставе, як яны адносяцца да беларускай радзімы. Бачыце, калі мы тут страцім веру ў радзіму, то і жыццё наша страціць сэнс. Скарынінскі цэнтр дапамагае нам захаваць гэту веру ў Беларусь".

**Алесь БАРСКІ**

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**9 чэрвеня**

68 г. — самазабойства рымскага кесара Нерона.

1672 г. — нар. Пётр I Вялікі, расейскі цар.

1815 г. — заканчэнне Венскага кангрэса, які ўстанавіў новы палітычны парадак у Еўропе пасля напалеонаўскіх войнаў.

1964 г. — памёр Мігель Анхель Астурыяс, гватэмальскі пісьменнік.

**10 чэрвеня**

1190 г. — кесар Фрыдрых I Барбароса ўтапіўся падчас трэцяга крыжовага паходу ў Анатоліі.

1858 г. — памёр Роберт Браўн, англійскі батанік, які апісаў малекулярны рух, названы пазней браўнаўскім.

1907 г. — французскія хімікі, браты Люм'ер надрукавалі ў часопісе *L'Illustration* першы каляровы здымак.

1912 г. — памёр Антон Ашкерц, славенскі пісьменнік.

1926 г. — памёр Антоні Гаўдзі, іспанскі архітэктар.

1942 г. — гітлераўцы, у адказ на замах на жыццё пратэктара Чэхіі Гейдрыха, знішчылі чэшскую вёску Лідзіцы; расстраляна каля 190 чалавек.

**11 чэрвеня**

1910 г. — нар. Жак Кусто, французскі даследчык мора.

1943 г. — рэйхсфюрэр Гімлер загадаў ліквідацыю ўсіх гета ў Польшчы і на акупіраванай тэрыторыі СССР.

1970 г. — памёр Аляксандр Керанскі, расейскі палітык.

1973 г. — у ЗША збудавана першы дом, забяспечаны сонечнай энергіяй.

1984 г. — падчас выпрабаванняў дзеяння амерыканскай абароннай сістэмы *SDI* ўпершыню знішчана ў космасе наступальную ракету.

**12 чэрвеня**

1895 г. — нар. паэт Леапольд Родзевіч.

1944 г. — немцы выпусцілі першыя ракеты V-1 на Англію.

**13 чэрвеня**

1525 г. — Марцін Лютар ажаніўся з былой манашкай Катарынай фон Бона.

1798 г. — заснаваны ў 1530 годзе Мальтанскі ордэн здаўся войскам Напалеона Банапарта.

1854 г. — нар. Чарлз Парсанс, англійскі інжынер, вынаходца паравай турбіны.

1983 г. — амерыканскі зонд *Pioneer-10* упершыню пакінуў сонечную сістэму.

**14 чэрвеня**

1832 г. — нар. Нікалаўс Ота, нямецкі інжынер, вынаходца чатырохтактнага бензарухавіка.

1868 г. — нар. Карл Ландштэйтэр, аўстрыйска-амерыканскі лекар, які адкрыў групы крыві.

1928 г. — нар. Чэ Гевара, аргенцінска-кубінскі рэвалюцыянер.

1931 г. — французскае судна *St. Philbert* перавярнулася падчас шторму; загінула 450 чалавек.

1951 г. — у Філадэльфіі спрацаваў першы ў свеце камерцыйны камп'ютэр *UNIVAC I*.

**15 чэрвеня**

1389 г. — бітва на Косавым Полі; сербы, у выніку пройгрышу, папалі пад турэцкае панаванне.

1843 г. — нар. Эдвард Грыг, нарвежскі кампазітар.

1919 г. — першы беспасадачны пралёт над Атлантыкай брытанцаў Джона Алкока і Артура Браўна. **(Ш)**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Маёй маме прысніўся дзіўны сон. Быццам бы занесла яна ў краму (у суседнюю вёску) металалом, які яна сабрала каля сваёй хаты. Чаго там толькі не было: і нейкія кавалкі жалезнай бляхі, і часткі ад аўтамабіляў, і зусім яшчэ добрыя жалезныя рэчы — нейкія ключы, гайкі, іншыя прылады. Не было ўсё гэта маёй маме патрэбнае, таму вырашыла яна здаць усё гэта на скупку.

Нават не думала мама, што за гэтыя жалязякі дадуць ёй у краме столькі зялёнай салаты. Нясе яна з радасцю гэту свежанькую, цвёрдую салату дахаты, у сваю вёску.

Раптам бачыць: дарогі няма. Дзе ж яна?! Маці ідзе па полі, парослым маладым жытам. А чаму ж тут дарогі няма?! Высветлілася, што гэта наша палоска такая шырокая, цягнецца яна аж да самай вёскі. Маці перажывае: як жа тут людзі будуць хадзіць?.. Жыта ж патопчуць!

**Галіна**

Галіна! Сон тваёй мамы даволі складаны. Адно ясна: мела твая мама нейкую цяжкую і няўдзячную працу, якой пазбылася (здала металалом). Замест яе атрымала шмат зялёнай салаты, што можа абазначаць нейкае аднаўленне, надзею на будучыню.

Калі твая мама вярталася з тае вёскі, дзе здавала лом, прапала дарога, але ўсё навокал было полем, парослым маладым жытам. У сувязі з тым можна меркаваць, што твая мама, хаця не будзе мець дарогі ў сваю вёску, то знойдзе шчасце і дабрабыт (маладое жыта, якое расло на яе полі) у іншым месцы.

**Астрон**

## ПАРНАСІК

### Цэнзура

Цэнзура — вораг шчырасці,
Жыла з бальшавіцкай міласці.
Некаторыя па ёй нудзяць —
Несумленна жывуць і круцяць.
Розныя бюракраты і „сферы"
Хочуць, колішняй атмасферы,
Хочуць, каб іх толькі хваліць,
У газетах адну ваду ліць.
Крытыкаваць — барані Божа!
Смярдзіць ім гэта нягожа...
Цэнзура была старанная,
Для партыі і царыкаў адданая,
Сачыла за ўсімі словамі
І няпэўнымі размовамі.
Таму многія пісалі пад дыктоўку
Хаця з гэтага — мала толку.
Таленты яна заглушала
І дурніцы адной навучала.
Цэнзура лісты правярала:
Цікавілася імі нямала.
Пасля адрасаты мелі прыкрасці —
Партыя не мела літасці.
У нас то яшчэ было паўбяды:
Людзі не рваліся ў ленінскія рады;
Але ў бальшавіцкай Расеі цэнзура
Ахапіла людскую натуру.
Праз яе многа прагрэсіўных шышак
Папала на чорны спісак
Адкуль дарога вяла на Лубянку
Вечарам, ноччу і ранкам.
А хто Сталіну хвалы не нёс
Пра яго заўсёды нехта данёс,
Што ён вораг народа і іншы,
Значыць — і лішні.
Салжаніцын атрымаў дзесяць гадоў ссылкі
У строгім рэжыме, без перасылкі,
Аб чым напісаў у „Архіпелагу Гулаг" —
Здзекі, няволя, турэмны барак...
Цэнзура — свайго роду інквізіцыя
І памочнік палітычнай паліцыі.
І ў нас яна ціха працавала:
Каго трэба губіла, іншых праслаўляла.
І цяпер некаторыя вышэйшыя тузы,
Горда выставіўшы свае пузы,
Хочуць вяртання цэнзуры
Каб мінавалі іх буры.
Хочуць свае цёмныя справўкі
Перамяніць у чыстыя байкі.
Яна — спадчына камуны і астрог,
І бальшавіцкі бог.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**



*Зняволеная фаўна.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

З былога

## Каб вы жылі толькі як пчолы!

Сям'я Цыбульскіх кепска жыла з сям'ёй Сівіцкіх. Усе ў вёсцы Х. ведалі, што сварка ўжо паўвеку ідзе за мяжу. Але гэта не была праўда, ніхто нікому яе не прыараў. Калі суседзі сустракаліся ў полі, не шкадавалі сабе непрыстойных слоў, нават малыя дзеці лаяліся заўзята.

У Цыбульскіх былі пчолы. Людзі ахвотна ў іх куплялі добры мёд. Сцяпан Сівіцкі зайздросціў Аляксею Цыбульскаму, што на мёдзе шмат зарабляе. Рашыў атруціць пчолы.

Ноччу Сівіцкі пайшоў у чужы садок і ў кожны вулей насыпаў атруты. Усе пчолы вымерлі, а мёд, што быў сабраны, таксама папсаваўся. Трэба было паліць вуллі, даўбаць новыя, заводзіць новыя раі.

Можа і не ведалі б людзі, хто зрабіў такую брыдасць, але двух хлапцоў, што на зары вярталіся з танцаў, заўважылі Сцяпана, як выходзіў з Аляксеевага падворка. Думалі, што мірыцца прыходзіў, і выпілі былі Цыбульскія з Сівіцкімі на згоду, бо Сцяпан брыў быццам захмялелы.

Калі Аляксей убачыў, што ягоныя пчолы нежывыя, а ля саду звочылі Сцяпана, ужо ведаў, хто знішчожыў яго пасеку. Але ніхто Сівіцкага за руку не злавіў. Аляксей сказаў толькі:

— Няхай таму чалавеку, што забіў нявінных істот, Бог адплаціць! — а пайшоўшы да Сцяпана дадаў: — Я ведаю, што гэта ты даканаў мае пчолы. Ты іх не павінен кранаць, яны ні ў чым не вінаваты, гэтыя Божыя служкі. Няхай твая сям'я жыве столькі, як яны.

Усе ў сям'і Сівіцкіх неяк пабляднелі. Сцяпанава жонка ўзяла словы Цыбульскага да сэрца і рашыла, што бяда ў хаце з-за таго праклёну. Неўзабаве памёр Сцяпан, за ім праз два месяцы на той свет пайшла і Зоська. Праз год іхняга дваццацігадовага сына панеслі на клады.

Усе ў Х. былі ўпэўнены, што так здзяйсняецца праклён. Пчала, казалі, жыве дваццаць дзён, а чалавеку за дзень пчалінага існавання Бог даў год. Ні адно дзіця Сцяпана і Зосі Сівіцкіх не дажыло дваццаці гадоў. Адна дачка пайшла была замуж у васемнаццаць гадоў, нарадзіла сына. На дваццаты дзень пасля родаў памерла. Муж рашыў з'ехаць з Х., думаў, уцячэ ад бяды. Калі ўнуку Сцяпана споўнілася дваццаць гадоў, і ён раптоўна, без ніякай прычыны памёр.

Старыя людзі ўсё паўтараюць, што лепш нікому „не залезці за скуру", бо калі той кіне справядлівы праклён, то яно так і будзе. Не збудзецца на бацьках, — дагоніць дзяцей, унукаў, а нават і праўнукаў!..

**Аўрора**

## Віраванка з „С"




1. санітарны батальён, 2. жыве ў нары, 3. савецкая дзяржаўная ферма, 4. быстраходнае маторнае судна, 5. планета, 6. жаночы галаўны ўбор, 7. дзень, 8. распалены попел, 9. сукупнасць інструментаў, прылад, 10. скупяга, 11. пісьмовая прылада, ручка. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 16 н-ра:

**Гарызантальна:** Сталін, Чачэрск, ураган, Спенсер, аварыя, Ельцын, алгебра, ясакар, Валэнса, даярка.

**Вертыкальна:** шчасце, ячмень, кросны, скура, агава, Інары, вугаль, Рубенс, ятаган, ласка, цукар, Нарва.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Ніва

„Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Закахалася

Закахалася ты, Маня,
Ў Віценьку па вушы,
Бо прыгожа апранаўся
І хадзіў у капялюшы.
Віценька ў старой маці,
Калі яна пенсію дастане,
Грошы зараз забірае
Ды бяжыць у краму.
Так праходзілі дзянькі,
Годы праміналі,
На дыскатэках удваіх
З Маняю гулялі.
Кажа Віця сваёй Мані:
„Давай жа жаніцца!
Хадзі, пойдзем у карчму,
Каб там пахмяліцца".
Як у карчму яны зайшлі,
Наладзілі баляванне.
Потым Маніны сяброўкі
Мелі насміханне.
— Ой нашто сяброўка Маня
Ты за Віцем ходзіш?
Нашто таго гультая
За ручаньку водзіш?
— Ой вы, мілыя сяброўкі,
Хачу вам тут сказаць:
Пад ручку Віцю я вадзіла
Ды з Віцем буду гараваць.

**Мікалай Лук'янюк**

## Нядзелька ў вёсцы

*(Мініяцюра-трагікамедыя ў 4-х дзеях)*
*Падзеі адбываюцца ў вёсцы, у старой, невядома кім пакінутай хаце. Усе чатыры дзеі праходзяць летняй нядзеляй.*

**Дзеючыя асобы**
(нявызначанага цывільнага стану):

**Дзея 1-я**
Антось Дзебштось
Андрэй Кабскарэй
Генадзь Дзеўзяць
Ігнась Тойпрадасць

**Дзея 2-я**
Амброс Грошыпрынёс
Станіслаў Лётаўкупляў
Марка Пачарку
Рыгор Закусьпрыпёр

**Дзея 3-я** — самая працяглая.
ВячаслаўНаліваў

**Дзея 4-я** і апошняя.
Лёс астатніх герояў не высветлены.
Лёха Тойтроху
Максім Дыкзусім
Пракоп Якснол
Сцяпан Падпаркан
Валерка Абзямельку
Сымон Гамон
Франак Абганак
Астап Дабаб

Працяг быў назаўтра раніцою. Некаторыя асобы адсутнічалі.

ЗАСЛОНА

**Зыгмусь Баровіч**



*Мал. П. Козіча*

У кіпцюрах цэцерука

## З дзённікаў нацыянальнага дзеяча

**23.06**
Фэст у (...). Выступілі „Галінкі", „Ялінкі" і „Малінкі". Публікі шмат. Людзі разышліся, мы раз'ехаліся.

**30.06**
Фэст у (...). Выступілі „Ялінкі", „Малінкі" і „Галінкі". Адвячоркам сустрэча ў мясцовай школе. Звяртаю ўвагу на дэкарацыю (на сценах прыгожыя ручнікі і партрэты пісьменнікаў). Солтыс падпіў ды наракае, што з верасня ліквідуецца навучанне беларускай мовы. Мы ад'ехалі, людзі разышліся.

**07.07**
Фэст у (...). Выступілі „Малінкі", „Галінкі" і „Сакавінкі". Прагрэс відавочны простым вокам. Пісьменнікі прадалі кніжку. Публіка шалее (побач магазіна з півам). Мы ад'ехалі. З мясцовых хто змог, той пайшоў дамоў.

**08.07**
Прыехалі госці з Мінска. Шчыра просяць, каб зняць бел-чырвона-белы са сцяны. Здымаем. Па-першае: не хочам ніякай правакацыі. Па-другое: госць з Мінска — пан, цар і воінскі начальнік. Па-трэцяе: у палітыцы трэба асцярожна. Пагоню таксама здымаем. Конь гэта перажытак.

**09.07**
Мясцовы журналіст дамагаецца інтэрв'ю. Хоча гаварыць пра палітыку. Адмаўляюся. Гэтая тэма мяне не цікавіць.

**14.07**
Фэст у (...). Выступілі „Ялінкі" і я. „Галінкі" прыхварэлі, а „Сакавінкі" і „Малінкі" абслугоўваюць якраз фестываль украінскай песні.

**21.07.**
Фестываль беларускай песні. У катэгорыі хораў выйгралі „Малінкі" (адзінаццаты раз), у катэгорыі салістаў — Манька Маліна (перамагла ўжо трыццаць трэці раз). Шчыра жадаем сабе даўгавечнасці.

**28.07**
Фэст у (...). Не выступіў дуэт „Гусі-Лебедзі" з-пад Гродна. Хлопцам так спадабаўся мясцовы базар, што ў гандлёвай гарачцы прадалі і скрыпку, і гармонік. На заканчэнне спускаемся з эстрады і ідзем у гэты шчыры, беларускі народ. Атамасфера цудоўная, толькі нейкі смургель, адурманены танным віном, балбоча, што няма ўжо беларусаў у гэтай мясцовасці.

**Міхась Андрасюк**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Грыша купляў каня на рынку:
— Колькі хочаце за гэтага каня?
— Мільён злотаў.
— Дзядзька, гэты конь сляпы!
— Вы хіба ашалелі! Вазьміце і праедзьцеся, тады самі пераканаецеся.

Грыша сядае на каня і паганяе. Конь разбягаецца, ударае з усёй сілай у цагляны мур і забіваецца. Грыша ледзь выходзіць жывы:
— І што, не гаварыў я, што гэты конь сляпы?
— Але затое які адважны!

* * *

— Гадзіннік, які я год таму купіў у вас, ужо папсаваўся. А завяралі вы мяне, што хопіць яго на ўсё жыццё.
— Вы тады зусім дрэнна выглядалі...

* * *

Бацька пытае сына:
— Ну і як прайшоў табе гэты экзамен?
— На працягу дваццаці хвілін экзаменатар трымаў мяне ў крыжовым агні пытанняў.
— Ну і што?
— Не выціснуў ад мяне ні слова.

* * *

Маці будзіць сына:
— Уставай, Андрэйка, праз 15 хвілін ад'язджае твой цягнік.
— А ці я ляжу на рэйках?..

* * *

Размаўляюць два сябры:
— Калі чую рана будзільнік, мне здаецца, што па мне страляюць.
— І зрываешся на ногі?
— Што ты! Ляжу, як забіты.

* * *

Ходзяць два пеўні па горадзе і страшэнна нудзяцца. Раптам адзін з іх азываецца:
— Хадзі ў гастраном, паглядаем голых курэй.

## Мініяцюра

Перад рэдактарамі ўсімі
Заўжды ён лістам слаўся.
Таму, хоць не цаніўся імі,
А ўсюды друкаваўся.

**Міхась Шавель**

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Я — чалавек, які без сям'і жыцця сабе не ўяўляе, і ў гэтых адносінах вельмі непакоюся за лёс майго пляменніка. Хлопец разумны і адукаваны, і жонку ўзяў такую ж. Праўду сказаўшы, ён доўга не жаніўся. Мо выбіраў, мо навука яго больш цікавіла, чым дзяўчаты. У кожным разе ажаніўся тады, калі закончыў два факультэты. Жонка яго, праўда, усяго з адным універсітэцкім факультэтам, але таксама поўнасцю сядзіць у навуцы. І падумаць толькі — сялянскія дзеці! Адкуль у іх такая цяга да навукі...

Я думала, што як толькі пляменнік ажэніцца, пасыплюцца ў іх дзеці. Ну, бо дзеля чаго ж жаніўся?! А яны пачалі будаваць дом.

Дом будавалі пяць гадоў. І яны, і яго бацькі (мая сястра з мужам) усё, што мелі, аддавалі на гэту мэту. Ён жа ў іх быў адзіным дзіцём, дзеля яго яны жылі і працавалі. Віла была прыгожая і прасторная. Варта было прысвяціць ёй і свой час і грошы.

А пасля пачалі абсталёўваць дом у сярэдзіне. Чаго толькі яны не накуплялі! У хаця ўсё было зроблена супермодна: белыя сцены, цёмная мэбля — зверху закругленая, усё ў адным стылі, нічога старога ў гэтым доме. Накуплялі адразу і дываноў, і карцін, і ўсялякіх кветак у вазончыках.

Ну, і запрасілі мяне калісь паглядзець гэта хараство. Я паехала да іх. Ад захаплення ў мяне заняло дух. Паказвалі мне па чарзе ўсе свае пакоі. Раптам я ўбачыла... поўнасцю абсталяваны дзіцячы пакой. Страшна мяне гэта здзівіла. Неяк жа ў народзе заўсёды лічылася, што перад нараджэннем нельга купляць нават вопраткі для дзіцяці, а ў іх увесь пакой гатовы — з мэбляй, з цацкамі, рознымі мішкамі, мячыкамі, дзіцячымі прыладамі і посудам!

Мне стала страшна ад думкі, што можа гэта прадвяшчаць ім няшчасце. Але запыталася ў іх, калі ўжо плануюць дзяцей мець. Уяві сабе, Сэрцайка, што яны мне на гэта адказалі! Яшчэ не ўсё зроблена. Яшчэ маюць абсталяваць дэкаратыўны агародчык, ужо нават дамовіліся з праектанткай, а тады яшчэ трэба будзе вырабіць на добры самаход. Як на Захадзе. Тады можна падумаць пра дзяцей, умовы ўжо дзеля гэтага ёсць! Божа мой, калі ж ужо і думаць? — спужалася я. Але што ж я тут магу сказаць?! Гэта ж дарослыя людзі.

Яшчэ не купілі яны багатага самахода, як сястра мне паціху паведаміла, што яе нявестка „пачала лячыцца". Высветлілася, што ўжо позна ёй не тое што радзіць дзяцей, але і мае праблемы з тым, каб зацяжарыць. Ведама, што ўжо ёй пад саракоўку. І цяпер невядома, выйдзе штосьці з гэтага лячэння, ці не. У мяне ў сярэдзіне ўсё пахаладзела: дык навошта ж было ўсё тое, што яны збудавалі? Каму гэта будзе патрэбна, жыццё ж чалавечае кароткае... Ці варта было выбіраць такую мадэль жыцця?

**Яніна**

Яніна! Твой пляменнік з пляменніцай занадта пераняліся Захадам. Там сапраўды людзі неяк так плануюць сваё жыццё, каб спачатку абсталявацца па-людску, а пасля ўжо павялічваць сям'ю. І трэба сказаць, што многім гэта ўдаецца. Можа пазней у бацькоў будзе менш „нерваў", але больш багацця, і дзецям будзе лепш. Але ў іх часамі здараецца так, што пасля трэба лячыцца.

І так бывае, што чалавек, гонячыся за вялікімі заробкамі, будуючы прыгожы дом і абсталёўваючыся „на ўсё жыццё", траціць тое, што для яго найдаражэйшае, а менавіта здольнасць мець дзяцей. А гэта ж абавязак і перад прыродай: пакінуць сабе падобнага!

Хочацца мець надзею, што жонка твайго пляменніка падлечыцца і народзіць дзіця. Калі не ўдасца — няхай бяруць на выхаванне сірату. Будзе нейкі сэнс далейшага жыцця.

**Сэрцайка**